# МІЖНАРОДНАЯ ХРОНІКА



Ангельская дэлегацыя ў Жэневе прапанавала абмежаваць колькасьць ваенных сама:ётаў. У той-жа час пабудаваны новы магутны бомбавоз узброены трыма кулямётамі



Паліцыя разганяе рэвалюцыйную дэмонстрацыю ў Бомбеі (Індыя)



...а. На сакольскім зьезьдзе прысутнічалі начальнікі штабаў ...таў малай антанты і Польшчы і француская ваенная ... ...ія. На здымку парад сакалоў



Надзвычайным дэкрэтам Гіндэнбурга ўся выканаўчая ўлада ў Прусіі перайшла да фон-Папена. Бэрлін абвешчан на ваенным становішчы. На зд. арышт члена Бэрлінскага паліцэй-прэзыдыуму с.-д. Хейманеберга



Нямеччына. За актыўны ўдзел у барацьбе лейпцыгскага пролетарыяту супроць фашызму па зьверску забіты т. Бэрнгард Дорнбэрг. На здымку т. Зельтман член нарады прускага ландтагу гаворыць прамову ў час пахаваньня




Бэрлін. У памяш... ...ції адбыўся організаваны комуністамі антыфашысцкі кангрэс ... ...рабочымі. На здымку прэзыдыум кангрэсу

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЖНІВЕНЬ 1932

№ 16

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 59. Тэлефон 17—09

## БАЛЬШАВІЦКАЙ „ЗЬВЯЗЬДЗЕ“ ПРЫВІТАНЬНЕ

Ненахіснаму барацьбіту за генэральную лінію партыі—ЦО КП(б)Б газэце „Зьвязда“ у дзень 15-гадовага юбілею з дню выхаду і пяці год з моманту пераводу на беларускую мову—гарачае бальшавіцкае прывітаньне.

На прыкладах бальшавіцкай барацьбы за чоткае правядзеньне генэральнай лініі партыі, ленінскай нацыянальнай палітыкі—заўсёды вучылася, вучыцца і будзе вучыцца ўся рабочая кляса і ўвесь бальшавіцкі друк Беларусі.

„Чырвоная Беларусь“ пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе цэнтральнага органу „Зьвязды“ і надалей будзе мастацкімі сродкамі змагацца за посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, за пабудову ў другой пяцігодцы бясклясавага грамадзтва.

**Рэдакцыя часопісу „Чырвоная Беларусь“**

АНАТОЛЬ ГІДАШ

# МЫ СЬВЯТКУЕМ

*У красавіку 1927 году Сыгізмунд Морыц пісаў у газэце „Аз Эшт“, што ўсюдых, дзе зьяўляецца граф Бэтлен, сяляне сьвяткуюць.*

Пане!
Сьвяткуем.
Праўда, мой родны!
Хутка падмые наш грунт ханаанскім
уродзівам.
Калі-ж нам яшчэ сьвяткаваць.

Поўна ў руках нашых збажыны,
Гэта зямля—дзе знайсьці багацей
і адкрыцей
зерням вясны,
уцешна сам-шост, і сам дваццаць
радзіць ёй.
Сеем мы, пане,
косім мы, пане,
з поля зьбіраем мы, пане!
Нічога, што крупнік з чарвямі ямо,
што цьвілі труізна у хлебе даўно,
што сала прасьмердла,
што дзеці у хаце, як плойма бязьмерная:
хлеб пакажы—засьмяюцца яшчэ,
сьлёзак няма ўжо у пустках вачэй.
Але аруд твой пусткай ня стане,
пане!

Палка крычыць да цябе мора
зерняў, —
гнеўных воч амбарас...
Пане!
Сёньня сьвята у нас.
Праўда, мой родны!
Хутка патопімся мы ў ханаанскім
уродзіве,
дык сьвяткаваньню цяперака час!

Многатысячным войскам шкілетаў
ідуць мужыкі на шашы.
Ветры жніва! З палёў жытні пах
прынясьлі вы,
сочаць яны, бачаць яны праз жалову
вачэй,—у ціішы
цяжка павісьлі ў садох сьпелыя
яблыкі, жоўтыя сьлівы.
З нас ты сьмяешся зямля?

Галодны і босы,
Карэлы мужык,
брудны мужык—
шукае работы.

Лоб ледзянее ад поту,
на сэрцы цяжар сьвінцовы,
ногі зламацца гатовы,—
пара засохлых травінак.

У Орошчазу на рынак,
у Бекешчабу на рынак,
ў Сэгэдын і Мако на рынак
са стогнам прыкрочыць шкілет,
моўчкі чакаць і зглець.
Вёрткі жандар настаўляе вуха,
хоча бунтарнай гаворкі падслухаць,
не, і ня пісьне ніхто!
Думка ў рабочай тварыны ня зьвяне.
Зьлітуйся, дай якой працы, пане!

... Гэты прышоў па каровы на торг,
коняй купляе вось той.
Нас не бярэ ніхто...
Продаем працу за лусту хлеба!
Ў лютым агні зямля і неба.

Пане!
Сьвяткуем.
Праўда, мой родны!
Вышай калень стаімо ў ханаанскім
уродзіве,
калі-ж нам яшчэ сьвяткаваць!

Замак за брамай моцна асеў,
Ўся агарожа ў начной расе.
Наўкола дому—сабак гайня,
а на вэрандзе—тосты зьвіняць.
Гнуцца пад ежай сталы. Агні...
Цыганская скрыпка, мацней утні!
Кроў нашу льлюць яны ў кубак свой,—
то-ж яны чокаюцца крывёй.
Вочы нахмурыўшы з-пад брылёў,
рушым па замак жар вугалёў.
Сочым. Язык прыліп да гарлянкі.
А гнюсны пісака,—подлы, праданы,—
піша
„Куды-б ні зьявіцца пану,
ўсюдых сьвяткуюць сяляне“.

Праўда, пане!
Сьвяткуем...
Ну дзіва!
Бо над пустэльняй вэчэрскіх палян
тысячы вуснаў сьцяла
мука і мсьцівасьць.

Сёньня сьвяткуем:
Зрушана мукі застава!
Праўда, мой родны!
Хутка ўжо й вусны зальле ханаанскім
уродзівам,
Калі-ж нам яшчэ сьвяткаваць!

Пане!
Штосьці завылі ізноў воўказубыя
зграі вайны...
Зноў крывёю сялян вайны смык
націраюць хутчэй.

Хай яны йдуць, хай пяюць, няхай
дохнуць—ня шкода,
Хай яны ідуць—па камандзе—яшчэ
і яшчэ
Наабяцаем зямлі ім, худобы, сядзіб,—
ну ці шкода
Толькі-б ішлі забіваць, паміраць,
Ішлі-б на братоў, на расійцаў!
Толькі-б нажыцца, як колішні раз...

Пойдзем мы, што-ж!
Дай, пане, вінтоўку!
Сёньня сьвяткуем мы, пане!
А вось як гранаты на панскія дахі
пальлюцца, як дождж,
Як загрухочуць казармы жандараў
Ў чырвоным пажары,
вось калі рыне, у зыркім маёвым
прыпары
панская кроў пацячэ ў вадазборы
вазёраў,—
вось калі будзем мы сьвяткаваць!..
Вось, калі, пане,
будзе ў нас сьвяткаваньне!

Падумаеш: злосьць,
Скажаш: праклёны.
Не!
— Сьвяткаваньне...
Адно сьвяткаваньне...

А сёньня, пане...
Праўда, мой родны!
Сёньня заліта чало ханаанскім
уродзівам,
Сёньня трасём мы галінамі скурчаных
рук:

А сёньня, пане,
мы—быццам неба,
што абваліцца гатова ад мук!

# Злачынца пакараны.



**АПАВЯДАНЬНЕ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА**

**МАЛЮНКІ З. АЗГУРА**

Зыгмунт Асядовіч чуў за гэтыя дні, бадзяючыся па вуліцах, звон у касьцёлах, бачыў маршыроўку салдат, бляск рэлігійнае працэсіі з галоўнага касьцёлу... Усё туманілася ў галаве яго. Трэйцяга дня ён яшчэ зарабіў злоты, памогшы дворніку вычысьціць забруджанае сутарэньне. У той дзень дзеці яго паспыталі хлеба. А з таго дня ён нават і ня бачыў іх: ён зусім не заходзіў дадому, нават нанач, бо ня мог глядзець у вочы галоднай сям'і. Ён мог прыйсьці туды толькі тады, калі будзе што даць ім паесьці. Яго страшна мучыла сумленьне— нашто ён пусьціў іх на сьвет, гэтых сваіх дзяцей? Урэшце ўжо й гэта пачуцьцё прытупілася, сьцяжэла, сплыло кудысьці ў цёмную глыбіню сэрца. Як і ўсялякая іншая жывёла, дзеці яго карміліся цяпер нейкім зельлем (маці хадзіла за горад рваць яго і варыла ў вадзе). Але ці доўга можа так пражыць чалавек?

Зыгмунт Асядовіч зноў, можа ўжо пяцьдзесяты раз, пашоў да фабрыкі. Далей брамы яго ня пусьцілі. Дый чаго было старацца ісьці туды: фабрыка ледзьве жыла. З дзьвёх тысяч рабочых там цяпер асталося ўсяго каля дзьвёхсот. Чалавек дзесяць стаяла ля брамы.

— Назад нас на работу ня прымуць,—сказаў адзін.—Няма чаго і думаць. Фабрыка зусім, кажуць, стане.

Другі чытаў газэту. Ён вычытаў, што ў нейкім з Амэрыканскіх штатаў урад абмежаваў фэрмэраў сяўбою пшаніцы; больш як ім вызначана яны ня мелі права сеяць.

— Чаму?—зьдзівіўся Зыгмунт Асядовіч.

— Бо там больш яе як трэба,—растлумачыў яго таварыш.— Летась там у моры наўмысьля ўтапілі шмат пшаніцы.



**— Мы таму пакутуем, што ўсё багацьце пазаграбала кучка людзей...**

— Дык там рай жыць,—горка падумаў Зыгмунт Асядовіч.— Там хоць не пакутаюць людзі з голаду.

— А ўнь бачыш?—паказаў таварыш пальцам на другі бок вуліцы.

Зыгмунт Асядовіч убачыў там тое, што бачыў кожны раз, як прайходзіў тут: у піўніцы на вакне было накладзена ўсяго, чаго толькі душа жадала. Бяры йдзі, купляй і еш.

— А за што я куплю!—выгукнуў Зыгмунт Асядовіч.

— Гэтак сама і ўсюды,—адказаў яго таварыш.—Гэтак сама там з тэй пшаніцаю.

Ён быў высокі, крыху пасівелы, гэты Асядовічаў таварыш. Ён цяпер стаяў нейк ня гэтак, як заўсёды, калі бывала станавіўся на работу і, сьпяваючы, вітаўся з Зыгмунтам Асядовічам. Ён як-бы ўсё чакаў чаго цяпер ад усіх гэтых, што стаялі няма ведама чаго ля фабрычнае брамы.

— Мы не таму пакутуем, што няма нічога, а таму што ўсё багацьце пазаграбала сабе кучка людзей... загаварыў ён.

— Капіталістых,—памог яму адзін.

— Гэты парадак можа толькі зьнішчыць рэволюцыя,—гаварыў усё першы. І сказаў пасьля сваё апошняе слова:

— Сёньня ўвечары мы ўсе павінны быць на дэманстрацыі беспрацоўных. Дэманстрацыю склікае камуністычны камітэт.

— А адкуль ты ведаеш?

— Я сам дачуўся ад выпадковага, беспрацоўнага, мне знаёмага.

І ён шпарка пашоў адгэтуль.

Зыгмунт Асядовіч яшчэ стаяў тут колькі хвілін, яму ўжо было куды йсьці, ды й хадзіць яму, галоднаму, зморанаму, было цяжка. Людзі з-пад фабрычнае брамы пачалі разыходзіцца, па некалькі чалавек, па адным. Зыгмунт Асядовіч пашоў апошні. Ён ішоў сам ня ведаючы куды, чаго і на што, некалькі разоў ён спыняўся пасярод вуліцы, пакуль вуліцы былі ціхія. Увайшоўшы ў цэнтральныя вуліцы, ён ня мог спыняцца: яго некалькі разоў перасьцярагаў вулічны паліцыянт: рух тут быў вялікі. Страшная млосьць хіліла яго да дрыматы, усё цела ныла ад голаду і слабасьці.

Неўзабаве ён прайшоў паўз шпіталь „Божая міласэрднасьць". Цьмянае жаданьне хутчэй зваліцца з ног і каб яго паклалі ў шпіталь хоць на дзень—заварушылася ў ім. Але ў тую-ж хвіліну яго апанаваў жудасны сум па дзецях і ён рвануўся, каб зноў ісьці няма ведама куды і шукаць няма ведама чаго.

Раптам ён убачыў дзіва: проста прад ім, гэтак блізка ад яго, з брамы вайсковае пякарні выехала вайсковая фура, паўнюткая хлеба. Хлеб, гэтак блізка ад яго! Ён ня стрываў. Нічога ўжо ня думаючы, ён пабег да фуры, хапіў хлеб і кінуўся бегчы.

— Стой!—загукаў яму наўздагон голас.

За фураю ішоў сэржант таго самага артылерыйскага палка, да якога належала пякарня і фура з хлебам.

— Стой!—яшчэ раз гукнуў сэржант.

Зыгмунт Асядовіч быў ўжо далёка. Сэржант ускінуў угару карабін, у момант прыцэліўся і стрэліў. Зыгмунт Асядовіч раптам пахіснуўся, прыпёрся на самы найкарацейшы момант да сьцяны, але ўжо ў наступны момант рвануўся бегчы зноў, усё ня выпускаючы з левае рукі хлеба. Думкі яго цяпер сталі ясныя як ніколі за ўвесь гэты час: хлеба дзецям! Хлеба сям'і! Хлеба сабе!

Гэтак бег ён праз шмат вуліц, тулячы да сябе хлеб. Сьледам за ім па тратуарах і бруку буйна капала кроў. Яна цякла з прастрэлянае правае рукі. Вельмі можа быць, што з устраненьня ён яшчэ не заўважыў свае раны. Чым больш бег ён, тым больш усё бегла за ім народу: людзі бачылі дзіўнага нейкага, устарапёнага чалавека з хлебам пад пахаю, што шпарка бег, з дзікім бляскам вачэй і не заўважаў акрываўленае рукі. І цікаўцы кідаліся бегчы за ім. Ужо беглі два паліцыянтыя, вулічныя дзеці і натоўп дарослых. А ён усё паддаваў ходу.

Вельмі шпарка дабег ён да свае кватэры... Гэта была трухлявая прыстройка да ня менш трухлявага дамка ў глыбіні двара. А з вуліцы-ж засланяў гэтую спарахнелысь шпітавы дом. Брама была адчынена і Зыгмунт Асядовіч адразу дабег да сваёй кватэры. Але дабег ён ужо ледзьве. Ужо адчуваў ён і страшную ў руцэ боль і прайшла ўжо тая нэрвовая ўзбуджанасьць, што гэтак гнала яго вуліцамі.

Нейк няспрытна ён прысеў на калені ля самага парогу і дзіва: усе ягоныя рэчы: лаўка, два табурэты, стол, шафка і ложак—стаялі тут-жа, перад парогам. Дзеці яго былі тут-жа, адны, бяз маці.

— У таты хлеб!—загукалі дзеці.

Гэты дзіцячы крык зноў на момант рвануў у бацькі ўсе жылы. Ён кінуў хлеб туды, дзе, як у тумане варушыліся дзеці.

— А мама пашла на могільнік,—радасна, хапаючы хлеб, загаварыў большы хлопчык.



— У таты хлеб!—загукалі дзеці.

— Чаго-ж яна пашла на могільнік?—запытала нейкая жанчына, яшчэ ня могучы разабрацца, што тут адбываецца.

— Мама там рве... расьце там... мама варыць...—пачаў заікацца хлопчык, запіхаючы ў рот хлеб.

— А чаму вы на дварэ?—пытала ўсё жанчына.

— Мы ўжо ад учарашняга дня.

— І начавалі тут?

— І начавалі тут, бо ўжо трэйці месяц не плацілі за кватэру. Гаспадар нам дазволіў на дварэ пабыць...

— А дзе-ж ваш бацька?

— А от тата!—віснулі раптам дзеці, бачачы як бацька іхні качаецца па зямлі, стогнучы.

— У таты кроў!—загаласілі дзеці.

Тымчасам паліцыянты разганялі натоўп. Не прайшло і пяці хвілін як на дварэ ўжо было пуста.

— Калі матка прыдзе?—пытаў паліцыянт у дзяцей.

— Яна казала, што доўга пезабавіцца,—трасучыся ад страху гаварылі дзеці, кідаючыся то да бацькі, то назад да таго ламачча, што было вынесена з кватэры на двор.

— Не вем цо робіць,—з момант стаяў паліцыянты. Пасьля пабег да бліжэйшага тэлефону. Неўзабаве з шпіталю „Божае міласэрднасьць" пад'ехала машына „хуткае дапамогі" і паліцыянты памаглі шпітальнаму службоўцу палажыць у машыну Зыгмунта Асядовіча. Ён усё стараўся павярнуць галаву і сказаць штосьці дзецям. Але гэта яму не ўдалося: ён быў ужо гэтакі слабы, а яго гэтак шпарка клалі ў машыну, што ён мог толькі стагнаць.

Неўзабаве пачало зьмеркацца. На перадвячэрнім небе на захад, дзе неўзабаве павінна было заходзіць сонца, блішчэлі чырвонаватым колерам вежы галоўнага гарадзкога касьцёла—катэдры. Яшчэ праз колькі часу на званіцы гэтага касьцёлу дасьпяваў самотні звон. Гэта была кожнадзённая мэталёвая песьня—адвітаньне сонцу, дню. Дзень канчаўся.

Тымчасам машына „хуткае дапамогі" яшчэ не даехала да шпіталю „Божая міласэрднасьць". Перш за ўсё яна заехала яшчэ ў адно месца: забіралі нейкага хворага. Выявілася, што гэта была жанчына: яе занесьлі ў выпадковы дом пасьля таго, як яна рабіла спробу кінуцца пад трамвай. Паліцыя пытала яе дакуманты (тэлефанавала на фабрыку), калі яе муж быў звольнены з фабрыкі і дзе ён цяпер: яна сама не магла гаварыць, гэтакая яна была аслабелая, перапалоханая і зьбянтэжаная.

Пасьля машына „хуткае дапамогі" накіравалася ўжо ў шпіталь. Ехала машына цераз пляц паўз касьцёл. Якраз у гэты момант званіў звон на касьцельнай вежы. Над касьцёлам заходзіла сонца. З кантычкамі ў руках маліліся на касьцельным каменным ганку некалькі жанчын. Старац стаяў на вуліцы, з працягненаю рукою.

Касьцёл стаяў на рагу пляцу, на скрыжаваньні вуліц. Раптам машына прымушана была спыніцца—хоць гэта й „хуткая дапамога" была, але ў ёй ня было як праехаць: густая калёна людзей проста з вуліцы выходзіла на пляц. Шэрагі людзей займалі ўвесь брук, а ў глыб—аж пакуль не зварочвалася вуліца. Над галавамі людзей ў калёнах пакалыхваліся чырвоныя палотнішчы з надпісам „хлеба галодным!", „Працы беспрацоўным", „Дапамогі беспрацоўным", „Няхай жыве камуністычная партыя", „Прэч катаўскі ўрад", „Няхай жыве пролетарская рэволюцыя ў Польшчы і па ўсім сьвеце". Дзеці ў сярэдзіне дэманстрацыі засьпявалі „Інтэрнацыянал". Пасьля сьпявала ўся вуліца. Выхад на супроцьлеглую вуліцу таксама зараз-жа загарадзіўся новаю калёнаю людзей.

Шмат аўтамабіляў, трамвайных вагонаў, разам з імі і „хуткая дапамога" скапіліся на пляцу. Неўзабаве загаварыў прамову чалавек. Гэта быў рабочы. Хто стаяў у той дзень ля фабрычнае брамы, дзе гаварылі пра амэрыканскую затопленую пшаніцу, бачылі, што гэта той самы, што тлумачыў Зыгмунту Асядовічу, чаму топяць пшаніцу ў моры, а навакол мільёны людзей мруць з голаду.

Цяпер, стоячы над калёнамі людзей чалавек здолеў сказаць мошныя словы пра задачы і патрэбы ўсіх тых, што сабраліся тут. Ён гаварыў хвілін пяць. Пасьля чаго неўзаметку зьмяшаўся з натоўпам. На яго месца стаў другі.

Дэманстрацыя шырылася і расла. Неўзабаве яна пачала выстройвацца ў доўгія калёны і рушыла па галоўную вуліцу. Там войска і паліцыя перацяла ёй дарогу. Дэманстрацыя стала раставаць, разьлівацца па вуліцах, зрабіўшы свае. Чуваць былі стрэлы і праз малы час некалькі „хуткіх дапамог" трашчалі маторамі па пляцох і вуліцах, забіраючы раненых дэманстрантаў—галодных, зьнядоленых людзей.

Зусім ужо было цёмна над касьцёлам. Трамваі і машыны зноў замільгалі і загрымелі на вуліцах, як „хуткая дапамога"



Чуваць былі стрэлы...

з Зыгмунтам Асядовічам прыехала да шпіталю „Божая міласэрднасьць". Ужо як ужджалі ў шпітальны двор, ранены Зыгмунт Асядовіч пачаў стукаць здароваю рукою ў шкляное вакенца да шофэра. Яго стрымліваў шпітальны службовец. Шофэр зазірнуў у машыну.

— Вады, дайце ёй вады,—гукнуў аслабелым голасам Зыгмунт Асядовіч.

За шумам матору шофэр нічога ня чуў, ды й можна сказаць яны прыехалі ўжо на месца. Першы выскачыў з машыны службовец. Ён загадаў зараз-жа, ня выносячы з машыны, клікаць да жанчыны доктара. Жанчына ляжала як няжывая.

— Ад хворых нэрваў,—прызнаў доктар.

— А што з дзяцьмі? Што з дзяцьмі?—не пакідаў гаварыць Зыгмунт Асядовіч.

Бінты з раненае рукі ссуніліся ўніз, ён гэтага не заўважаў.

— З якімі дзяцьмі?—пытаў доктар.

— З маімі. Гэта маці іх! Гэта жонка мая!—паказаў ён на жанчыну.

Жанчыну выносілі ўжо з машыны. На шпітальным двары было цёмна, гарэла некалькі ліхтароў, толькі пад уваходамі ў будынак.

Праз паўгадзіны Зыгмунт Асядовіч ляжаў з напава ўбінтаванаю рукою. Жанчыну панесьлі ў жаночы пакой.

* * *

Жанчына вышла з шпіталю раней за мужа. Ён вышаў на два тыдні пазьней за яе. Рука яго больш у лакці ня згібалася, ён астаўся калекам назаўсёды.

Нават каб і мог ён дзе-небудзь знайсьці работу, дык ня можа, з-за свайго калецтва, стаць на яе. Але каб і мог ён стаць дзе-небудзь на работу, дык на фабрыку ўжо яго ня прымуць: ён-жа акалечаў з тэй прычыны, што краў казённае, дзяржаўнае дабро. Акалечаў ён таму, што не хацеў жыць сумленна і справядліва, а падаўся на злачынную, зладзейскую сьценку.

Адзін раз на Касьцельным пляцы зноў сыходзілася агульная гарадзкая камуністычная рабочая дэманстрацыя. Калёны дэманстрантаў выходзілі адначасна з усіх вуліц на пляц. Войска і паліцыя сьпешна выстройвалася ля касьцёлу, гатовае кожную хвіліну даць залп у жывое мора людзей.

Адну з калён беспрацоўных вёў Зыгмунт Асядовіч.

18-VI-1932 г.



**Ф-ка „Комунарка" адліўка форм для эскспартных канфет**



**Канфетная фабрыка „Комунарка" (Менск) т. Мільлер-брыгадзір гаспад.-разьліковай узорнай брыгады карамельнага цэху**



**Ф-ка „Комунарка". Брыгадзірша т. Дунэр лепшая ўдарніца па колькасьці і якасьці**



**Ф-ка „Комунарка". Дражджавы цэх. Узорная гаспадарча-разьліковая ўдарная брыгада т. Кофэльман сыстэматычна перавыконваючая прамфінплян**

Р. КРАСЬНЕЎСКІ

# „ПОЛЬСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў БЕЗНАДЗЕЙНЫМ СТАНОВІШЧЫ“

## Прызнаньні фашысцкага раманіста П. Ю. Кадэн-Бандроўскага

Вядомы польскі раманіст, аўтар фашысцкага раману „Чорныя крыльлі“, якія зьяўляюцца апафэозам маршалу Пілсудскаму, Юлій Кадэн-Бандроўскі апублікаваў у афіцыяльным органе Пілсудскага—„Газэце польскай“ (за 3 і 10-VII-32 году) вельмі цікавы і сымптоматычны артыкул пад назвай: „Зноў—літаратура“.

Артыкул паказальны для характарыстыкі таго ўсеагульнага крызіснага стану, у якім знаходзіцца зараз фашысцкая Польшча. Не прадстаўляе выключэньня з гэтага стану застою і гніеньня нават прававерна-фашысцкая літаратура. Аўтар упамянёнага артыкулу, вядомы сваёй адданасьцю „пасьля-майскаму“ рэжыму вымушан аднак прызнаць, што гэты рэжым не апраўдаў у прыватнасьці, надзей—літаратараў—пілсудчыкаў, якія сваёй творчасьцю падрыхтоўвалі, абаранялі і абараняюць „па маёвую сыстэму“, гэта значыць сыстэму маршала Пілсудскага.

І ня дзіўна таму, што артыкул Кадэн-Бандроўскага, выдатнейшага лідэра фашысцкай літаратуры і рэдактара літаратурнага аддзелу „Газэты польскай“—прасякнут мэлянхоліяй, пераходзячай часам у безнадзейны чорны пэсымізм. Вывад, які вымушан зрабіць Кадэн-Бандроўскі адносна стану і пэрспэктыў польскай (зразумела фашысцкай) літаратуры сапраўды сумны.

— „Амаль безнадзейнае становішча літаратуры“ —вось словы, якімі характарызуе становішча Кадэн-Бандроўскі. Гэта, так гарманіруе з могілкавымі загалоўкамі польскіх газэт. Да многіх могілкаў Бандроўскі дадае яшчэ адны: „Могілкі літаратуры“. Зразумела, наш савецкі чытач не чакае ад прававерна-фашысцкага аўтара ўскрыцьця сапраўдных прычын заняпаду буржуазна-шляхецкай Польшчы і яе літаратуры. Яшчэ менш зьбіраецца ён пачуць ад яго крытыку і выкрыцьцё тых, хто заняты зараз адзіным „мастацтвам“, якое ня ведае заняпаду—шалёным узброеньнем і падрыхтоўкай вайны супроць СССР, і вядома-ж фашысцкі раманіст, ня стане цікавіцца становішчам нейкіх там нацменшасьцяй, якія складаюць 45 проц. усяго насельніцтва Польшчы, ці амаль 14 мільенаў з 32, што жывуць у сучаснай Польшчы.

Для яго гэтыя 14 мільёнаў, канешне, „крэсы“, „малапольскага быдла“, што стаіць зьне граніц эўропейскай „цывілізацыі“, якую заклікана „абараняць“ на ўсходзе Эўропы панская Польшча... Шукаць у артыкуле К.-Бандроўскага ўсіх гэтых сапраўдных прычын усеагульнага заняпаду імпэрыялісцкай Польшчы з адзіна квітнеючай ваеннай прамысловасьцю—было-б зусім дарэмнай справай.

Асноўная думка (ці сум) пана К.-Бандроўскага—інакшая: ён на сутнасьці льле сьлёзы аб тым, што замест 100 проц. фашысцкай квітнеючай літаратуры—вартай прадстаўніцы „эўропейскай цывілізацыі“, ён бачыць заняпад і запусьценьне.

— „Догорели огни, облетели цветы“... І перад мэлянхолічным зрокам К.-Бандроўскага паўстае ва ўсёй сваёй безнадзейнай рэальнасьці малюнак сёнешняй экономічнай, палітычнай і літаратурнай Польшчы.

К р ы з і с. І К.-Бандроўскі няўцешна плача аб тых шчасьлівых часох, калі кнігі „лепшага ўзроўню“, як ён кажа, разыходзіліся на рынку ў ліку 8000 паасобнікаў. Гэты час неўзваротна прайшоў. Цяпер—у Польшчы няма попыту, няма пакупніка на мастацкую кнігу хаця-б і „вышэйшага ўзроўню“. Нікчэмных 900 паасобнікаў праданых за год—гэта вышэйшае, што мае Польшча зараз на кніжным рынку.

„Творы найлепшых пісьменьнікаў і паэтаў,—піша Бандроўскі,—ня могуць дачакацца поўнага выданьня. Творчасьць даходзіць (з пункту гледжаньня рыначнай распрадажы) амаль да зьнішчэньня“.

— „І гэта—мэлянхолічна ўсклікае аўтар,—пры 32-х мільённым грамадзтве!—забываючы вылічыць з яго, як мы ўказалі мільёнаў 14, што складаюць украінцы, беларусы, немцы, яўрэі і інш. „нецывілізаваных“ з пункту гледжаньняў фашысцкага літаратара... І нарэшце аўтар маўкліва скрыў у гэтай лічбе надзвычай важную вялічыню—польскі пралетарыят, які як вядома, мае свой пункт гледжаньня на становішча ў Польшчы, у прыватнасьці на становішча літаратуры.

Наогул, наколькі нам вядома, справа не такая ўжо безнадзейная з чытачом і попытам у Польшчы на... рэвалюцыйную кнігу, да якой існуе нават надзвычай высокая цікавасьць у прыгнечаных мас. Але мы, вядома, разумеем, што фашысцкі аўтар гаворыць не пра гэтых чытачоў і кнігі...

У чытача міжвольна напрашваецца параўнаньне гэтага малюнку з тым, што ён бачыць і ведае пра кніжны рынак у нас. Дзесяткі мільёнаў чытачоў, таксама мільённыя тыражы мастацкіх выданьняў—ва ўсемажлівых сэрыях—масавай, школьнай, маладзежнай, піанэрскай і г. д., паўторныя выданьні клясыкаў,—поўных, выбраных, асобных твораў, вялізарны рост маладой савецкай літаратуры на мовах усіх народаў, што насяляюць Савецкі саюз, народаў, што ідуць усё наперад у нястрымным поступе культурнай рэволюцыі.

Вось тая розьніца, што характарызуе сёнешні дзень у нас і ў „іх“. Мы ня прыводзім тут адпаведных лічбаў аб нашым росьце толькі таму, што савецкі чытач знае аб іх і сам лёгка знойдзе, калі захоча. Дастаткова ўказаць на тое, што калі мы і церпім ад чаго небудзь, дык толькі ад недастатковасьці тыражоў, што абумоўлена цяжкасьцямі з паперай і ўжо ва ўсякім выпадку, нам незнаёмы кніжны крызіс збыту.

А вось там у хвалёнай краіне „эўрапейскай цывілізацыі“ аказваецца „ня могуць выдаць поўнага збору твораў“ сваіх клясыкаў, шмат хто з якіх зьяўляюцца духоўнымі продкамі і простымі ідэолёгамі нацыянал-фашысцкай Польшчы. Сярод такіх „што ня могуць быць выданымі“ пісьменьнікаў К.-Бандроўскі пералічвае Пшыбышэўскага, Сарашэўскага, Канапніцкую, Ожэшко, Тэтмайера, Бржозоўскага і шмат іншых менш выдатных (да ведама аўтара: у нас у БССР нядаўна выдан выбраны А. Міцкевіч). І калі пан Кадэн-Бандроўскі спрабуе вытлумачыць гэту „абыякасьць да мінулага“ спасылкай на нібыццам вечны закон „бацькоў і дзяцей“, фатальна не разумеючых адзін аднаго, дык нам гэта здаецца толькі сьмешным. Ён ня хоча, ці ня можа бачыць, што першапрычына тых зьявішч, аб якіх ён піша, ляжыць глыбока ўва ўсёй палітычнай сыстэме сучаснай Польшчы, што ідзе пад знакам імпэрыялістычнай экспансіі і нячуванага прыгнечаньня.

Калі адно палажэньне аб тым, што салаўі паэзіі не сьпяваюць на штыках, а музы ня жывуць у дулах гармат, дык яно больш за ўсё падыходзіць да польскай рэспублікі, што ня выходзіць з шуму вайсковых парадаў, нядвухсэнсоўных важжаў людзей з гэнштабу і недвухсэнсоўнай палітыкі фашысцкай прэсы і літаратуры. Але пан Кадэн-Бандроўскі ведае аб гэтым досыць добра і нават больш таго—прымае сам насільны ўдзел у гэтым канцэрце.

Вось чаму нам здаюцца сьмешнымі тырады пана Кадэн-Бандроўскага, які прызывае праклёны на галовы тых, хто вінаваты ў тым, што рыцары фашысцкай літаратуры і іх творы паводле яго выражэньня „падаюць у нябыцьцё“. Ён няўцешна сумуе аб тым, што творы тых, дзякуючы якім жывём вольна(?) з іншымі народамі агульнай культуры эўрапейскай, як роўны з роўнымі (!), што гэтыя моў імёны паглынуты нябыцьцём. Гэту сваю тыраду К.-Бандроўскі заканчвае выразьлівай, мабыць самай праўдзівай у яго артыкуле: „Гэта магчыма найглыбейшая дэмаралізацыя, якую бачыць грамадзтва крызіса“—заключае ён.

— Найглыбейшая дэмаралізацыя фашысцкага грамадства—з гэтым вывадам нельга не згадзіцца. Варта толькі ўспомніць справу Гаргулава, удзельнікамі і натхніцелямі якой былі высокапастаўленыя людзі ўсіх краін т. з. „эўрапейскай цывілізацыі“ (у Польшчы ён таксама „гасьцяваў“ у свой час), прызнаным філёзофам якой (цывілізацыі) зьяўляецца парыскі гараднічы К'япп. Сам Гаргулаў белагвардзеец і крымінальны бандыт зьяўляецца адначасова і „раманістам“, які пастаўляў пад імем Паўла Брэда бяздарныя фашысцкія раманы, ахвотна прыманыя ў лона „эўрапейскай“ літаратуры. (Між іншым, што скажа пан К.-Бандроўскі наконт гэтага столькі праслаўленага свайго калегі па пяру?

К.-Бандроўскі прававерны сын сваёй фашысцкай радзімы, кажучы аб дэмаралізацыі грамадзтва, далёкі ад думкі, каб абвінавачваць у гэтым пэўную клясу і палітычную вярхушку, што яе прадстаўляе. Не, ён у сваіх скаргах уласна ня выходзіць з граніц недавольства вернага служкі, які проста хацеў бы, каб пан не забываў аб яго вернай службе. На мове аўтара артыкулу гэта называецца „маральнай і матэрыяльнай дапамогай“ з боку гаспадароў краіны.

— Выдаюць-жа ўсемажлівыя субсыдыі „пацярпеўшым“ ад крызісу памешчыкам і фабрыкантам!—пераконвае К.-Бандроўскі, скромна дадаючы да гэтага: „Той-жа сродак патрэбен і тут, як і ўсюды. Патрэбна дапамога“. І ўжо дзесьці ў канцы ён прапануе стварыць „Акадэмію літаратуры“, як панацэю ад капіталістычнага распаду.

Задаволяць ці не, просьбу К.-Бандроўскага яго кіруючыя гаспадары; будзе ці ня будзе створана „Акадэмія літаратуры“ нас гэта ні ў малай меры ня цікавіць. Ды і ня выратуе гэта становішча. Важны і каштоўны ў яго артыкуле асобныя прызнаньні, што прабіваюцца скрозь дымку мэлянхоліі, з якіх вы-

нікае, што будучаму краху польскага фашызму няўхільна будзе спадарожнічаць крах служачага яму мастацтва і літаратуры.

Кажучы гэта мы далёкі ад той думкі, што нібы фашысцкая літаратура наогул і асабліва польская ўжо ня можа служыць інтарэсам сваёй клясы і ўплываць на пэўныя прапластаваньні дробна-буржуазных мас. Не, так думаць гэта азначала-бы ня бачыць сацыяльнай прыроды і тактыкі міжнароднага фашызму, шырока скарыстоўваючага ўсе выгляды палітычнай дэмагогіі, паклёпу, містыкі, рэлігіі, шпіянажу і г. д. Але што не падлягае ніякаму сумненьню і з чым нельга не згадзіцца, у артыкуле аднаго з выдатнейшых пісьменьнікаў польскага фашызму К.-Бандроўскага, дык гэта з тым, што мастацтва і літаратура ў краінах сучаснага капіталізму ідуць або прышлі да гістарычнага тупіка. Вывесьці мастацкую творчасьць з гэтага тупіка зможа толькі адзіная кляса, якая разам з тым зьявіцца і магільшчыкам старога. прагнілага да карэньня буржуазна-капіталістычнага грамадзтва—пралетарыят. Лепшым прыкладам таму служыць СССР, дзе расьце, мацнее, пускае ўсё новыя і новыя парасткі савецкае мастацтва і літаратура, што адлюстроўваюць абуджаную творчасьць дзесяткаў народаў і нацыянальнасьцяй. Гэта дае нам упэўненасьць у тым, што калі гэроічны пралетарыят Польшчы атрымае магчымасьць выявіць сваю ўсебаковую творчасьць—ён вывядзе польскую літаратуру на шырокую гістарычную дарогу, зрабіўшы яе вартай свайго імя і вялікіх мэт.

ЯКУБ ЕРМАЛОВІЧ

# УДАРНІЦА

Крыўда песьню больш
не ахутае,
Смутак постаці не сагне,
Як, бывала,
У Мікіты на хутары,
Калі пасьвіла стада сьвіней.

З малых год давялося батрачкай
Мерыць мілі жыцьцёвых дарог.
Адтаго
І з эпохаю нашай
Ты зьлілася ўсім нутром.

Не вагалася,
Не варажыла
Узьнімаць руку за каго.
Ты прышла ў саўгас „Варашылавец"
З першых дзён заснаваньня яго.

І ня словамі
урачыстымі—
Ты істотай змагалася ўсёй
За сьвятло,
За карыта чыстае—
За здаровае парасё.

І ў рабоце—штодзённай і ўпартай—
Ты знайшла сабе верны шлях.
На пасадзе адказнай сьвінаркі
Давяла адыхол да нуля.

Вечарамі
Пацееш за партай—
Часам,
боль ажно
у ваччу.
Ты гаворыш:
— Анкэту ў партыю
Я сама запоўніць хачу.

Пакары лямантар,
Гаспадарніца,—
Бачыш,
З літар выходзяць словы,—
Каб пачэснае імя ўдарніцы
Яшчэ болей зрабіць ганаровым.

*Фото Семенякі*



**Рэдкалегія брыгаднай газэты „Ударнік" колгасу „Спартак" Кармянскага р-ну за выпускам газэты на полі.**

ЯН. ШАПАВАЛАЎ

# ЛЯ чырвона-зялёных слупоў

... „И лишь на границе
Твердыни Советов
Один пограничник
Стоит на посту".
(З песьні пагранічнікаў).

Вы ніколі ня былі на мяжы? Якія вобразы зьяўляюцца ў вашых думках, калі вы чуеце гэтае слова?

Людзям, ня бачыўшым мяжы, яна ўяўляецца звычайна ў якім хочаце выглядзе, апроч... яе сапраўднага.

Мне даводзілася чуць пытаньні (і няпрыкметна ўхмыляючыся адказваць на іх) такога парадку:

— Як асьвятляецца мяжа і адкуль бярэцца электраэнэргія?

— Ці ёсьць на мяжы сьцяна, або забор і з чаго яны зроблены?

А ў сапраўднасьці... лес, пералесак, рэчка, балотца, луг. Усё вакол, наколькі хапае вока, восень разубрала ў золата. Застаўшыяся на зіму птушкі спакойна расьсякаюць паветра ў розных напрамках, клапотліва цьвіркаюць, расьсеўшыся на вецьцях. Ціха і пуста. Толькі вецер шуміць у лісьці ды птушкі пераклікаюцца.

Але... на гэтым малюнку вялікага мастака-прыроды чалавек зрабіў папраўкі.

Павярніцеся налева. Адзін супроць другога стаяць два слупы.

Вялікія. Моцныя. Дубовыя.

Адзін—чырвона-зялёны. Другі—бела-малінавы.

Узыйдзеце на ўзгорак. Гляньце. Вунь яшчэ такая-ж пара далей,.. яшчэ... яшчэ...

Жывое цела твару зямлі разрэзана, раздвоена гэтай доўгай. доўгай рыскай слупоў.

Цягнецца яна ад Белага мора з вечнымі ільдамі да незамярзаючых берагоў Чорнага. Ад Днястра да Уладзівастоку, ад Уладзівастоку да Камчаткі, уздоўж усяго пабярэжжа Ледавітага мора.

Адзін супроць другога стаяць слупы. На чырвона-зялёным, на чыгуннай дошцы адліт серп і молат і толькі чатыры літары „БССР", або „УССР", або ўсеабдымаючая „СССР". На тым слупу, які вы бачыце напісана „БССР".

На бела-малінавым таксама чыгунная дошка, а на ёй біблейская белая птушка раскінула ў бакі драпежныя лапы з выпушчанымі кіпцюрамі. Надпіс: „Rzecz Pospolita Polska" (Жэч Паспаліта Польска).

Слупы стаяць адзін супроць другога і паміж імі ўсяго тры мэтры. Мяжа.

Дзе-ж сьцяна? Што перашкаджае, не сьпяшаючыся, спакойна, або рыўком пераскочыць гэтыя тры мэтры паміж слупамі? Што стаіць на шляху паслугачоў Канавалавых і Пуанкарэ, Пілсудзкіх і яшчэ ня ліквідаваных Рамзіных?

Людзі.

Такія-ж, як і вы і я, як мільёны нас; людзі, пасланыя намі і апранутыя ў шэрыя шынэлі і зялёныя шапкі; людзі, якія і ўдзень і ўночы, зімой і летам, у мароз і завіруху, у дождж і жару, ня сьпяць, уважліва прыслухоўваючыся да кожнага шолаху, углядваючыся ў кожны куст; людзі, аб якіх мы, іх паслаўшыя, успамінаем вельмі рэдка і аб жыцьці якіх ведаем вельмі мала.

Людзі? Дзе-ж яны?

Вы не заўважаеце вакол ніводнае чалавечае істоты. Але згадзецеся, што не абавязкова вы бачыце таго, хто бачыць вас. Ня лічыце сябе самотнымі тут ля гэтых слупоў. Тут кусты і пагуркі, рэчкі і канавы маюць вочы і вушы. Ня бачыце вы іх таму, што яны вельмі добра выконваюць свае функцыі, а дрэнна яны іх выконваць ня могуць.

Яны ахоўваюць першую ў сьвеце краіну соцыялістычнай будоўлі.

Вам усе-ж ня верыцца, што вы не самотны?

Хадземце на заставу і вам раскажуць, што вы рабілі, куды хадзілі і што аглядалі ў пэрыяд вашай адзіноты.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

На ачышчаным з-пад лесу прыгорку вялікі драўляны будынак, у вялікіх вокнах якога іграе заходзячае сонца.

Будынак пабудаваны моцна з добрага лесу. Вакол яго відаць клюмбы з завяўшымі ўжо цяпер кветкамі. На страсе будынку вышка. Там ходзіць чалавек у зялёнай шапцы з вінтоўкай і біноклем на грудзёх. Супроць уваходных дзьвярэй з неачышчаных ад белай кары бярозавых бярвеньняў зроблена прыгожая арка і вакол будынак апаясваюць такія-ж бярозавыя краты. Дарожкі правільнымі геомэтрычнымі рыскамі перасякаюць адгароджаную плошчу і прыветна жаўцеюць сьвежым пяском.

Над вышкай высокая жардзіна. Наверсе жардзіны з вялікім чырвоным палатном гуляе асеньні прадвячэрні вецер.

Ад жардзіны да высокай елі нацягнуты провад. Антэна.

За рыскай крат ачышчана роўная пляцоўка, на супроцьлеглых канцох якой асталіліся... футбольныя вароты. А ў баку чатыры слупы з перакладзінамі... Лесьвіцы, жэрдкі, кольцы, самадзелкавы „казёл" для скаканьня і такая-ж „кабыла".

Гэта спортгарадок заставы. Пагранічніку патрэбна быць здаровым, няўтомным, моцным. Спорт тут—неадлучная частка жыцьця і быту. Чуць воддаль—меншы будынак. Вокны пад самай страхой. Вакол яго таксама пасыпана пяском, а ніжэй вакон бялее паласа.

Падайдзеце бліжэй. Гэта—лёзунг: „Конь—лепшы друг і баявы таварыш пагранічніка. Любі каня. Шануй яго!"

Гэта—канюшня.

Тут недалёка—калодзеж. На ім шчыльна падагнаная крышка і вісіць замок.

Пагранічнік павінен быць здаровым і баяздольным, а вораг—блізка. Таму... Замок. Яшчэ шэраг будынкаў, аб прызначэньні якіх вы дагадваецеся па іх знадворным выглядзе. Вось лазьня. Вось зямлянка, вось... маленькая нізенькая хатка з вокнамі...

Гэта—памяшканьне для сабак.

Конь і сабака—верныя таварышы пагранічніка. Яны дзеляць з ім усе недастачы і цяжкасьці пагранічнага жыцьця.

А гэта што? Таксама зямлянка? Вялікая такая? Толькі яна запушчана вельмі...

Гэта—былая застава. Тое, што вы бачыце вакол, пабудавана нядаўна. Да гэтага пагранічнікі жылі ў пабудаваных імі-ж самімі зямлянках. Вось такая зямлянка зараз перад вамі. Гэта—гістарычная каштоўнасьць заставы. Яе перадаюць дэмосьведка баявой працы шматлікіх герояў-вартавых маладой Рэспублікі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .



Пасажырскі аўтобус зав. АМО вытрымаў іспыты ў прабезе Масква—Менск—Масква



Аўтамашыны розных заводаў СССР якія удзельнічалі ў прабезе прышлі ў Менск у поўнай іспраўнасьці.

У кардоне сьветла і чыста.

Акуратна запраўленыя ложкі, закрытая ад пылу зброя.

Застава вячэрае. Нікога няма ў інтэрнаце. Зойдзем у ленкуток—гэтае унівэрсальнае памяшканьне, якое сумяшчае функцыі клюбу, пакоя адпачынку, клясы, залі сходаў і шмат іншых.

На цэнтральным месцы—„куток Чырвонай арміі“.

Спакойнымі шэрымі вачыма пазірае са сьцяны з жалобнай рамкі Фрунзэ. Побач—Клім Варашылаў.

Чуць ніжэй—таксама жалобная рамка. „Слава паўшым“—такая назва ўбранага жалобнымі рамкамі ляконічнага сьпісу байцоў-пагранічнікаў, паўшых у „мірных“ абставінах.

... „Забіты ў бойцы з узброенымі парушыцелямі“... „Забіты здрадніцкім стрэлам захаваўшагася парушыцеля пры абходзе дзяржаўнай мяжы“... „Памёр ад ран“... „Забіты“... „Забіты“...

Побач з кожным імем кароткая біяграфія... „Рабочы Уралу“... „Батрак Калускай губэрніі“... „Селянін-бядняк Днепрапятроўскай акругі“... „Член УсеЛКСМ“... „Член УсеКП(б)“...

Сьпіс далёка няскончаны. Некалькі сантымэтраў белага поля паперы нічым не запоўнены. Гэта не выпадкова. Ён можа папоўніцца.

Матэрыялы біяграфіі правадыроў, дыяграмы падрыхтоўкі заставы падабраны і раскладзены на ўважліва зробленых дошках, на якіх з гэтых матэрыялаў створаны монтажныя групы, якім можа пазайздросьціць не адзін клюб.

А вось дошка: „Рыхтуйся да чарговых вайскова-палітычных заняткаў“. Побач невялічкая шафа з падабранымі падручнікамі, кіраўніцтвамі, выразкамі з газэт, літаратурай. На дошцы апытальнікі, расклады, сьпісы пасьпяваючых, сьпісы адстаючых.

Дошка соцспаборніцтва.

Пад агульнай шапкай „Вынікі соцспаборніцтва за летні пэрыод“ шэраг дыяграм, якія група „нагляднай агітацыі ленкутку“ зрабіла з рознаколернай паперы, дае поўны малюнак становішча падрыхтоўкі і дысцыпліны заставы. На цьвічку „кніжка індывідуальных соцумоў“. Адчынеце яе. Яна амаль да канца запоўнена самымі рознастайнымі почаркамі:

„Я—Рогаў Іван—абавязваюся выканаць 8 практыкаваньняў па стральбе на добра і выклікаю таварышоў Ананьнева і Мірошанка“.

„Выклік прымаем

Ананьнеў.

Мірошанка Піліп“.

І шмат іншых па самых розных пытаньнях.

На супроцьлеглай сьцяне — „Пагранічнік-ленінец“—насьценгазэта заставы. Большасьць допісаў падпісана апошнімі чысламі. У кутку ў зачыненай скрынцы-шафе пад шклом радыёпрыёмнік. Адчыненая глотка рэпродуктара зьзяе пад стольлю. На сталох—падшыўкі газэт, акуратна складзены (дзяжурны па ленкутку падрыхтаваў куток да гадзін агітмасавай работы) шашкі, шахматы ў тумбачцы ля сьцяны.

Пагранічнік любіць свой ленкуток. Гэта адзінае месца, дзе ён можа адпачнуць пасьля стомлена доўгіх гадзін на мяжы, гэта адзінае месца, дзе ён можа пабачыць газэту, кніжку або проста пасядзець і паслухаць радыё.

Тут ён піша лісты да хаты. Тут у доўгія зімовыя вечары, пасьля агітмасавай работы, калі акяніцы шчыльна прычынены і вакол кардону вые мяцеліца і ваўкі да „агульнага адбою“ ціха пяе, сабраўшыся купкай, песьні. Песьні, як і ленкуток, любіць пагранічнік. Песьня падбадзёрвае, песьня ў простых і зразумелых словах напамінае яго ролю, яго задачы. І старынныя народныя песьні часта гучаць тут. Украінскія, расійскія, беларускія. Іх пяюць усе і разумеюць усе. Сумесная работа шчыльным дружным колектывам, цяжкая, поўная недастач служба па ахове меж Саюзу, зьмятае нацыянальныя межы, выпрацоўвае сваясаблівую, усім зразумелую мову, робіць зразумелымі для ўсіх нацыянальныя песьні.

І гэтыя песьні пяюцца асабліва задушэўна і ціха. Рэдка можна ў кардоне пачуць гучную песьню. Яна неяк ня ўвязваецца з нацягнутай напружанай абстаноўкай мяжы, ды і прыгажэй ціха атрымліваецца.

А вось і самі пагранічнікі. Пасьля добрай вячэры высыпалі са сталоўкі, купкамі разыйшліся па інтэрнаце, заходзяць у ленкуток, падыходзяць да вешалкі ў шынэлі махоркі ўзяць, дастаюць зубныя шчоткі—зубы пасьля вячэры пачысьціць.

Акуратныя фрэнчы колеру хакі, сінія штаны. Усе каротка абстрыжаны. Лягчэй трымаць чыстай абстрыжаную галаву, прыемна пасьля сну абліць яе сьцюдзёнай вадой.

## ЗА ЎЗОРНУЮ УДАРНУЮ ПРАЦУ НА ЛЕСАЗАГАТОЎКАХ УЗНАГА







Зьлева на права: 1. Тав. Гейдэр дырэктар леспрамгасу датэрмінова выканаў заданьне і перавыканаў яго. 2. Нач. спробы клясавага ворага сарваць лесазагатоўкі. 3. Тав. Пінчук студэнт Гомельскага Інстытут і СНК БССР па правядзеньні лесазагатовак т. Гурэвіч, ня гледзячы на цяжкія ўмовы працы грамы. 5. Калгасьнік калгасу імя Красіна тав. Новікаў выпрацаваў у парадку соцспаборніцтва заданьне па вывазу лесу, паказаў узоры працы.

Падыходзіць адзін да нас; зварочваецца: „Ну, як вам у нас?" Падыходзяць яшчэ, ствараецца купка. Ахвотна запытваюць пра нашыя ўражаньні аб мяжы, пра Менск, менш ахвотна адказваюць на нашыя пытаньні да іх. Але покуль вашы пытаньні ня будуць закранаць „вайсковай тайны" вы на іх атрымаеце кароткі поўны адказ. Калі-ж вы мімаволі выпадкова закранеце гэтае кола пытаньняў, адказу не чакайце. Хлопцы адверцяцца жартамі, перавядуць гутарку на другое і нічога вам па сутнасьці ня скажуць.

„Не балтаць"—адно з асноўных правіл, якое запамінае пагранічнік, прышоўшы на мяжу. З гэтага пачынаецца яго выхаваньне і паступова вельмі часта малапісьменны з неабуджанай яшчэ клясавай сьвядомасьцю хлопец, праходзячы ступень за ступеньню школу пагранаховы, становіцца адданым барацьбітом, стойкім салдатам рэволюцыі, едзе дамоў іншы раз членам партыі і заўсёды скончыўшым курсы кіраўнікоў, рахункаводаў, або агітпроппрацаўнікоў колгасаў, курсы працаўнікоў нізавога савецкага апарату, курсы трактарыстаў, або іншыя падобныя ім. Гэтыя курсы яны праходзяць тут-жа на заставе, сумяшчаючы нясеньне службы з упартай вучобай.

Вы хочаце бачыць гэтых людзей? Вось яны. Падышоўшы да нас першым сакратар ячэйкі партыі тав. Андрэеў. Ён „старык", г. зн пагранічнік другога году службы. Ён з Уралу. Рабочы. Прышоў. на заставу беспартыйным. У партыю ўступіў на заставе. Ён—вылучэнец. На яго пятліцах—два трыкутнікі. З рабочых пагранічнікаў высунуты на пасаду камандзіра аддзяленьня і яго аддзяленьне на дошцы соцспаборніцтва адзначана самымі доўгімі палоскамі каляровай паперы. Толькі ў аднэй дыяграме на месцы, дзе павінны быць даныя андрэеўскага аддзяленьня стаіць вялікі нуль. Гэта—дыяграма дысцыплінарных узысканьняў. За ўвесь летні пэрыод на байцоў яго аддзяленьня ня было накладзена ніводнага ўзысканьня і сам Андрэеў за два гады службы ні разу ня быў пакараны, а падзяк меў шмат. На левым кішэні ягонага фрэнчу чарнее рэмень гадзіньніка. Гэты гадзіньнік для яго ня проста гадзіньнік. На ім кароткі выразаны ў мэталі надпіс: „Стойкаму пагранічніку за дбайнасьць у ахове савецкіх рубяжоў". Гэта ён са сваімі хлопцамі затрымаў узброеную банду, тэрорызуючую прымежныя вёскі і сярод іх бандыта, які стрэлам у акно параніў начальніка заставы Філіпава, праводзіўшага ў школе першы організацыйны сход колгасу.

А вось і сам Філіпаў. Худы адкрыты твар. Той-жа гарнітур, толькі на пятліцах колеру зялёнага лісьця ружавеюць, нібы крople крыві тры кубікі. Ён прышоў на мяжу, калі тут былі яшчэ замест кэрдонаў тыя зямлянкі, адну з якіх вы нядаўна бачылі. Ад радавога пагранічніка да начальніка заставы прарабіў шлях гэты чалавек, прышоўшы сюды з гаспадарскіх палёў Паволжжа, дзе ён быў парабкам. Унівэрсытэт мяжы не прайшоў дарэмна. Замест цёмнага загнанага парабка перад вамі камандзір-пагранічнік, замест няпісьменнага хлопца—член раённага партыйнага комітэту, член раённага выканаўчага комітэту.

Гэта толькі два.

Ці патрэбны яшчэ прыклады? Наўрад-ці патрэбны.

Возьмем любога з акаляючых вас пагранічнікаў і ў кожным з іх знойдзеце сваяасаблівага Андрэева—сёньня і Філіпава—заўтра.

Але ня толькі сябе перакройваюць пагранічнікі. Няма такога пытаньня ў жыцьці прымежнай вёскі міма якога застава прайшла-б бяз увагі. Пабудова школы і маста, работа коопэрацыйнай крамы і хлебазагатоўкі, колектывізацыя і ліквідацыя няпісьменнасьці—усюды ва ўсякіх комісіях, тройках і пяцёрках вы сустрэнеце пагранічніка. Парадай, партыйнаасьветнай, а часта і жывой сілай дапамагае застава перабудаваць той кавалак тэрыторыі СССР, дзе яна знаходзіцца. На заставу ідзе няпісьменны бядняк-селянін, каб яму напісалі тут заяву ў сельком аб атрыманьні дапамогі, сюды ідзе пабітая мужам жонка, каб „таварыш начальнік" расказаў ёй, як знайсьці ўправу на зьвера.мужа, на заставу бяжыць з расьсечанай рукой хлапчына, каб яму „памазалі ёдам" рану. На пляцоўцы заставы моладзь па сьвятах скача і пяе песьні разам з пагранічнікамі пад застаўны гармонік. На гэтую-ж пляцоўку зьбіраецца і моладзь і старыя паслухаць радыё.

Гэтая работа не праходзіць бяз вынікаў. Растуць колгасы ўздоўж нашых межаў, будуюцца вялікія добра абсталяваныя з трыма-чатырма настаўнікамі школы. Над хатамі, прывыкшымі слухаць толькі ваўчынае выцьцё ды ласіны крык, уздымаюцца антэны. Часта выносяцца з хат прадымленыя, пачарнеўшыя абразы (характарнай рыскай прымежных вёсак зьяўляецца тое, што ў хатах вы вельмі рэдка ўбачыце абразы).

# РОДЖАНЫ ОРДЭНАМ ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЬЦЯГУ БССР







**...ру ДПУ тав. Тэнісон, адзін з арганізатараў лесараспрацоўкі. Праводзіў вялікую палітычную работу. Ліквідаваў ...явіў адданасьць і энергію ў працы, умела правёў распрацоўкі з організацыйнага боку. 4. Упоўнаважаны ЦК ...дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву і правільнай расстаноўцы рабочай сілы, забясьпечыў датэрміновае выкананьне пра... ...мест 60 кубамэтраў 400 кб-м, замацаваў сябе да канца лесазагатовак. 6. Колгасьнік тав. Салавей перавыканаў**



**Узмацнім абароназдольнасьць краіны. Парад танкаў пад Масквой**

І насельніцтва прымежных вёсак цэніць гэтую работу, ахутвае пагранахову падтрымкай і любоўю, бачыць у пагранічніку абаронца, таварыша ў перабудове свайго жыцьця на новае, лепшае, сьветлае. Тое, што для працоўных цэнтральных вобласьцяй Савецкага Саюзу толькі далёкае, адцягнутае разуменьне далёкага „ўчора", абшарнік, жандар, паліцыянт— для жыхара прымежнай паласы гэта відавочнае зьявішча. Ён бачыць цераз мяжу польскіх, румынскіх і інш. абшарнікаў і жандараў жывымі і ўчорашні дзень для яго яркі і сьвежы, і ведае ён, адчувае, бачыць, што менавіта людзі ў зялёных шапках стаяць паміж імі і гэтым жудасным „учора", адчуваючы і абараняючы яго ад гэтага „ўчора".

За гэта любіць пагранічніка працоўны, селянін, таму верыць пагранічніку, раіцца з ім.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зараз у ленкутку павінен пачацца агульны сход ячэйкі заставы. Хадзем на ганак, пакурым. Ня будзем перашкаджаць пагранічнікам сваёй прысутнасьцю.

Ну і цемра. Уласнага носу ня відаць.

Як тут ціха. Цішыня якаясьці асаблівая, нацягнутая, як струна. Здаецца, парушы і яна лопне. Нават брэх сабак у вёсцы, аганькі якой там далёка мігаюць з цемры, не парушае, а як быццам-бы падкрэсьлівае цішыню.

Цёмна і ціха.

Міма марудна прайшла постаць. Вось ён — вартавы сацыялістычнай будоўлі, спакойна і ўпэўнена абходзіць вучастак; ня сьпіць, каб мільёны працоўных СССР маглі спакойна спаць ноччу і працаваць удзень. Поступ яго ціхі і ўпэўнены. Ён ведае, што ён не адзін. Ён упэўнены, што яго падтрымаюць мільёны па першым яго сыгнале.

Цёмна і ціха.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І ў гэтай цішы і цемры своеасаблівае напружанае жыцьцё.

Там у цемры людзі. Тыя самыя, з якімі вы нядаўна гутарылі.

Яны ўмеюць слухаць цішыню.

Яны ўмеюць бачыць у цемры.

Яны ня сьпяць.

Мімаволі ўспамінаюцца ўрыўкі з вершу пагранічніка-паэта:

...„В таком лесу
ружье несут
И ждут
нежданные потери.
В таком лесу
кордон стоит
Насторожившейся
пантерой".

---

Так жывуць людзі, якія даюць мажлівасьць спакойна будаваць соцыялізм.

Няхай спакойна гудуць маторы!

Няхай спакойна растуць карпусы!

Няхай спакойна ўзьнімаецца цаліна непарушанай глебы!

Сыгнал аб небясьпецы будзе даны своечасова.

Пагранічнік на пасту.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З захаду вецер прынёс нейкія царкоўныя напевы.

Гэта ў польскай пляцоўцы польскія салдаты пяялі вячэрнюю малітву.

---

ЗЬМІТРОК АСТАПЕНКА

# САДОЎНІК

Старому садоўніку МІХАЛУ ПСЫТО

Стары корч у садовай дрэме
Прытуліўся маленькім яблікам...
А калісь ён быў добрым дрэвам
І даваў харошыя яблыкі.

Ужо выплыў над садам поўнік,
Сее месячныя срэбныя сьлёзы.
Канчайце сваю працу, садоўнік,—
Сыра ў садзе зрабілася...
Позна.

Вы стаміліся. Вашы старыя гады
Патрабуюць заслужанага спакою.
Сівізна ў пасмах вашае барады
Падобна на туман над соннай ракою.

Сад калгас абступіў у шахматным строі.
Ён на ўзгорку ўзьбіраецца
і да рэчкі зьбягае.
Поруч з яблынкаю старою
Расьце зялёная, маладая.

Колькі іх пры вас ящчэ вырасла!
Колькі іх выпесьціла ваша рука!
Ваша праца з любоўнай шчырасьцю
Бачна з кожнага тут растка.

Вечарэе...
ў калгасных хатах
Адзін за адным згасаюць агні.
Дамарошчаны калгасны бухгальтар
Падлічвае па табелях працадні.

Палявод з кашлем хрыпла-іржавым
Варочаецца на ложку
і мармыча праз сон.
Ён сьніць пра высокія ўраджаі
І пра раньні засеў аўсоў.

Добры калгас у вас, таварыш садоўнік.
Добры сад з высокаю агарожай.
Вы ўзрастаеце пасьлядоўна
І людзі ў вас такія харошыя.

Я ведаю—
праз непаладкі і праз адлівы,
Праз кулацкае зьвягань не і сваволю,
З гонарам пераможна прайшлі вы
Да першага выезду ў поле.

Перамагаючы на дарозе завады і прэкі,
Мы ўзрастаем праз прыкрыя зрывы і
страты...
Вы бачыце, садоўнік, новага чалавека
У кожным маладым калгасным аратым?

Захоплена,
з энтузіязмам,
Звыш нормы,
праз зможу,
да ночных зорак,—
Ішлі яны калёнаю
разам,
Штурмуючы плугамі суглінкавы ўзгорак

Вы чулі, садоўнік?—
у нашай краіне
Будуюць сацыялістычныя гарады.
Там будзе паветра празрыста-сіняе
І зялёныя будуць сады.

Другія садоўнікі з тым-жа запалам
Едуць у новых волатаў карпусы...
Партыя іх паслала
Рабіць сады і лясы.

Вось яна наша будучыня—
Плён нашых нэрваў, мазгоў і цягліц!
Моцнымі і адважнымі будучы,
Мы пабудуем наш сацыялізм.

Новае сяло (Дрысеншчына)
Менск, май 1932 г.

М. ПАСЬЛЯДОВІЧ

# ЛЯ СНАПОЎ

АПАВЯДАНЬНЕ

1.

Так і сказаў той, матнуўшы дубцом, каб адагнаць ад потнага жарабка назойных мух:

— Глядзі мудрэй, як свае. Каб ніводнага снапа ня зьнікла за ноч.

Цмокнуў тонкімі сухотнымі губамі, тузануў за повад. Беланогі, порсткі жарабок, пакрыўджаны раптоўнаю ды яшчэ падвойнай камандай, нездаволена чмыхнуў. Ўраз скочыў праз вытаўчаны зубастымі коламі жняяркі сьлед.

— Зьвер, а ня конь!—ад захапленьня здаровым, гарачым норавам жарабка, падумаў Аляксей Драбуцька. Падправіўшы спушчаную з правага пляча жакетку (яна была адзета ў „накідку“), ён падняў з зямлі сухі яловы кіёк і падаўся на ўскрай поля, дзе канчалі жніво жыта.

Стомленае за дзень высокай дарогай, шукала спакою ў полымі захаду вячэрняе сонца. Пакуль Драбуцька дайшоў да жняярак, яно ўжо якраз пасьпела зьнікнуць, рассыпаўшы па небе яркі бляск залатых кос.

— І заўтрашні дзень надвор'ем пахне,—замест прывітаньня Зосі Лявіцкай выказаў прароцтва Драбуцька. Злавіўшы поглядам спрытнасьць яе рук, ён нагнуўся і карамзаватымі пальцамі грабянуў у густой спружыністай поўсьці іржышча.

— Чысьцей зьбіраць трэба... Колас да коласа—сноп. Сноп да снапа—капа. А ў капе сама менш чатыры пуды хлеба.

Ён беражліва, як абыходзяцца з выпечаным ужо хлебам, улажыў на далоні сабраныя каласы і, падыйшоўшы да мэндліка, старанна заправіў іх у снопе.

— От як трэба рабіць! Па гаспадарску. Не панскае прыбіраем, а сваё.

Стары перажываў вялікую радасьць ад добрых вынікаў калгаснае работы (жыта высьпела, высокае і густое, як сьцяна), таму ў яго голасе ня было і сьледу прычэплівасьці. Запхнуўшы сабраныя каласы ў сноп, ён выпрастаўся. Паставіў кіёк ля мэндліка і выцяг мяшок з тытунём. Круцячы папяросу, глядзеў ў бок адкуль, звонячы прагнаю стальлю вострых нажоў, ішла жняярка.

— Сёньня бадай ці скончаць,—ні то спытаў, ні то сказаў, каб не маўчаць, Аляксей.—Яшчэ гэктары два будзе.

— Павінны скончыць,—толькі цяпер абазвалася Зося. Ад нуднага тону яе голасу, стары ўраз навайстрыў слых. Няёмка патупаў ля мэндліка, вытрас леваю рукою з касмылёў чорнае барады прызеленкаватыя зерні махоркі і ўжо ня ведаў, як быць далей.

„Мо' на мяне зазлавалася“,—падумаў і пачаў у выразе твару, у руках Зосі шукаць прычыну яе такога настрою. Хацеў спытаць, але баяўся пакрыўдзіць і абразіць. Цяпер у ім на парозе 65 году, жыла чуласьць, здабытая доўгай практыкай і нагляданьнямі.

Зьядаючы грубое, высьпеленае цыбульлё густога жыта, міма ішла жняярка. Збоку машыны, тузаючы лейцамі буланых коняй, сядзеў Харытон, муж Зосі. Можа заняты работай, а можа і наўмысьля, нават і не глянуў на Аляксея, на жонку, якая падбегла, каб вязаць скінутыя крыльлем новыя снапы.

Тут ранейшая чуласьць Аляксея была гвалтоўна патрывожана жоўтаю грываю прапушчанага і стаптанага коньмі жыта.

— Як жнеш? крыкнуў Аляксей наўздагон Харытону.—Чаму круціш коняй, калі яны ідуць роўна? От, басэтля! Харытон спыніў жняярку.

— А чаму сам ня браўся, калі мая работа ня добрая? Языком кожны ўмее баўтаць, як дзяругай у сажалцы. Усе вы такія.

Ён, не адцягнуўшы стала ад жыта, сеў на жняярку і ўзьеўся дратаванкай па гладкай сьпіне коняй. Узгрэтыя болем, коні як не падскочылі на месцы, а потым раптам рванулі ў хадзе. Густы земляны пыл пырснуў з пад машыны, выцярушваўся з карэньня сьцятых стальнымі зубамі пукоў збажыны.

— Звар'яцеў,—глянуўшы ў бок мужа, сказала Аляксею Зося.—Ён як наўмысьля прапушчаў ля мяне агрэхі, каб не магла справіцца да другое жняяркі. Тыя жанкі па чатырыста снапоў сёньня вывяжуць, а ў мяне бадай ці зьбярэцца дзьвесьце. Кожны дзень пагражае: „Я табе пакажу, ударніца!“ Дык чаго ён узьеўся? Што я зрабіла яму дрэннае? Калі была нядобрая дык трэба было адразу прыглядацца, а не тады рашаць, як пражылі сумесна шэсьць год.

Па смуглявым твары яе блііснулі, як буйныя кроплі раньняй расы, сьлёзы. Плечы здрыгануліся глухім плачам.

Аляксей быў зьбіты з панталыку і ня ведаў з чаго пачаць. Шырока махнуў карамзаватай далоньню.

— От яно што! Як-жа гэтае вышла? І чаму цяпер? Вы-ж здаецца, жылі ў ладзе. І прыметаў ня было, каб сварыліся. Няўжо...

Ён ня мог падабраць слоў, ня мог здагадацца. Перапоўнены самым узвышаным настроем ішоў ён на поле вартаваць снапы. За дзьве мінулыя ночы, калі тут нікога ня было, нехта скраў семнаццаць мэндлікаў. Дык старшыня наважыў зыркімі вачыма яго, Аляксея, падгледзець у цемені гэтай начы, хто лёгка жывіцца агульнаю працаю. А тут на, табе!..

Роўна, як на паказе, гонячы коняй падышоў з жняяркаю Саўка Верамейчык. Прывітаўся з Аляксеем і сьледам за гэтым вывярнуў у лаянцы ўсё сваё нутро.

— Дакуль гэта будзе? Ён мне ўвесь дзень работу падрывае. Як наўмысьля стараецца паскудзіць, каб ня скончыць сёньня жніва. Чаго варта такая якасьць?

Спыніўшы коняй, ён хутка скруціў папяросу. Нэрвова чыркануў запалкай.

— Не сажнеце сёньня,—сказаў Аляксей, памагаючы Саўку адцягваць стол, каб набылі разгон нажы.

*Фота Семенякі*



Жніво ў калгасе „Ланд Арбэйт“ Рэчыцкага раёну

Упэўненасьць, настойлівая і цьвёрдая, як халодная сталь нажоў, бліснула ў ваччу Верамейчыка.

— Сёньня скончым. Заўтра-ж мтэсаўскі трактар прыходзіць. Дык на малацьбу шмат людзей патрэбна... А тут і двое спраяцца падгрэбваць каласы коннымі граблямі.

Гусьцелі вячэрнія цені. Гусьцела ад мэндлікаў шырокае, бяз межаў, поле.

2.

З работаю, блукаючы ў цемені між прытоеных мэндлікаў, ішла адна. Мэханічна махала назубленым сёлета ў каваля Андросіка сярпом. Несла ў сабе вострае і балючае расчараваньне дзён былога жыцьця. Шэсьць год таму назад яно, няпрыметна для людзей, было атручана ўпяршыню. Але думалася, што гэта быў толькі настрой якой аднэй хвіліны. Надалей мінуцца і забудуцца яе чорныя цені, каб радасьць, новая і нязнаная, зьяла, як распаленае сонца ў ліпеньскія пагодныя дні. Але-ж не забываюцца першыя ўражаньні і адчуваньні. Станоўчы або адмоўны бок іх растручваецца ўсё больш і больш драбніцамі сутычак і перажываньняў.

Можа, каб яна не хавала свой першы боль ад людзей, было-б лягчэй. Можа, каб выветрыла ў гаворцы сваё нутро, ачуняла-б і глянула-б на жыцьцё яснымі і здаровымі вачыма заспакаеньня. А то крыўду за крыўдай з вострым болем садзіла ў галаву, як высьпелены, жоўты лён у чаднай ёўні А дзе выхад?

Мякка шуршыць пад нагамі зрошаная густая поўсьць іржэўніку. Корпаючыся ў блытаных сьцежках жыцьця, яна не заўважыла, як нячутна вырасла ля яе карамзаватая начная цень.

— Хто тут блудзіць?

Зьнячэўку выпаў назублены ў каваля Андросіка серп. І ў гэты-ж момант упяршыню выразна і ярка бліснула ў яе галаве, асьвятліўшы цёмныя, няпрыязныя схаванкі бязьмернага цяжару, постаць маладога каваля.

Але ў наяўнасьці перад ёю быў толькі, як здагадалася яна ад паўторнага запытаньня, вартаўнік Аляксей Драбуцька.

— Я... з работы...

І каб ня было няёмкім і нудным, як твар Зосі, маўчаньне, стары хуценька загаварыў прыцішаным голасам:

— Та-ж я снапы прышоў вартаваць. Сёньня ля будынкаў паставілі Фідруся. Дык мяне старшыня сюды навахтаваў, як больш разьбітнога,—і стары голас загучэў заслужаным маладым гонарам ад давер'я.—Сказаў, каб ніводнага снапа ня зьнікла за нач. Так і сказаў,—як-бы апасаючыся, што Зося ня дасьць веры яго словам, пацьвердзіў стары. І ўжо далей разьвіваў свае думкі:

— Унадзілася нейкая халера шкодніцкая, ды цёгае. Твае цёгае, мае цёгае, усіх нас, дабро цягае. А хіба гэта права, каб зладзейства было, калі ты павінен атрымаць тое, што ты зарабіў? Дзе гэта ў савецкай нашай уласьці так напісана?

Ён сеў, зашуршэўшы нябачным у цемені іржэўнікам.

— Прысядзь і ты! Нябось, натрудзіла за дзень сьпіну. Дык пасядзі. Да дому пасьпееш. Да дому ніколі ня спозьнішся. А тут—на цянькі—як рукою падаць.

Яна нагнулася, моўчкі абмацала на зямлі халоднае шорсткае лязо і зноў выпрасталася.

— Садзіся, дурная,—бяз усякага адценьня абразы, хутчэй бацькаўскім, ласкавым тонам, выкінуў словы стары.

Над полем, над маўклівымі, ледзь прыметнымі ў чарнаце начы мэндлікамі новага хлеба жыла ў бледна-зялёным сьвятле зор чулая, мяккая цішыня. Толькі раз звонка паласнулі па ёй крыльлямі дзікія качкі. Абзываючыся адна з адной цёплым нутраным краканьнем, яны імчаліся нябачнымі надзейнымі дарогамі шукаць вадзяных прастораў.

— Заўтра, кажуць, дадуць пытлю качкам,—абазваўся Аляксей.—Заўтра першы дзень паляваньня.

Але ён мала паважаў гэтую прафэсію і таму цяпер выказаў свой крытычны погляд на канкрэтным прыкладзе.

— А думаеш, наб'юць? Дзе бачыла! Лапці толькі стопчуць і шроту ў балота насадзяць. Вунь Анросік, каваль наш, які ўжо стралец, а і то больш трох цыранак ня вытапча за дзень. Праўда, зімою ён забіў чатырох лісоў, але што гэта за дабыча? Па мойму калі ты паляўнічы, дык кожны дзень цягай па лісу. Гэта будзе норма. Гэта, можна сказаць, будзе цяжкі працадзень.

Узьбіўшыся на кавалёва паляваньне, стары толькі цяпер прыпомніў нейкую сувязь паміж Зосінай бядою і маладым віхрастым хлопцам. Падумаўшы каторы час, загаварыў зноў:

— Ну, але скажу табе, што над Віцю (гэта Андросіка) лепшага, як кажуць ударніка ня знойдзеш нідзе. Ня толькі ў нашым раёне, але і ва ўсім сьвеце! Ён табе чатыры ночы спаць ня будзе, калі наважыў, што зрабіць. От які хлапец! Дармо, што сірата, бяз бацькі і маткі рос, па чужых людзях выгадаваўся. Можна сказаць, такі сам пастух, як і я быў. Але ён зубамі ўгрызаўся ў жыцьцё, напакоўваў дапытную галаву практыкай. Дык яму цяпер сам чорт ня роўня. Другія калгасы сьвет аб'езьдзілі, шукаючы санічных шасьцёрак да жняярак, а наш Віця сам зрабіў. Дзень і ноч ня вылазіў з кузьні а што наважыў—вышла! От будзе нейкай бабе мужык! Золата а ня рукі. А які характар. Будуць жыць.



**Дастаўка літаратуры, газэт, лістоў і грашовых пераводаў на палі калгасьнікам занятым працаю**

І от тут, як здарожаны конь, што ірвецца на цянькі праз пасевы, стары бухнуў запытаньнем:

— А як-жа ты, Зоська, жывеш са сваім? Апошні час нешта таройкаюць людзі...

Памылку зразумеў толькі тады, як пачуў глухі, прыдушаны плач. Такі самы, як чуў яшчэ завідна, калі яна вязала снапы.

— Я нічога... я ня мерыўся крыўдзіць... Стары,—дурны,—зблытаўся, ня ведаючы, што гаворыць Драбуцька.—Ты ня плач. Я толькі...

Але ўжо нішто не магло стрымаць бурнага, галоснага разьліву здушанае чаднае бяды жыцьця гэтай жанчыны. Яна ўпала на зямлю і з-за цемры нябачная старому, застагнала на ўсё поле.

Аляксей, напалоханы такою нечаканасьцю, ускочыў на ногі.

— Ня плач... Чуеш? Калі ён сьцярвец, дык чаго табе з-за яго гінуць. Цяпер дарогі ня зьвязаны, а сьвет вялікі, як ніколі даўней. Калі што дрэннае робіць, дык можна знайсьці ўправу. А які ён—усе ведаюць.

Яна плакала доўгі час, трывожачы спакой поля. Потым павольна, усё яшчэ хліпаючы, падняла галаву і павольна села. Нэрвова скруціўшы ў цемені папяросу, стары чыркануў запалку. Напалоханая цемень раптам скочыла ў бакі, вартуючы недалёка моманту, каб зноў накінуць на людзей сваю нябачную сетку. Як кідаў вартаўнік у росны іржэўнік запалку заўважыў на твары Зосі рашучасьць, і як новая зара, бляск ужо сухіх вачэй.

— Дзядзька!—пазвала яна ціха.—Дзядзька...

І не чакаючы, пакуль ён падасьць свой голас, сказала:

— Снапы з поля краў Харытон...

— Харытон? Мужык твой?

На момант здалося старому, што няма цемені, што ўночы— дзень і ён бачыць, як падбіраецца да калгасных мэндлікаў Харытон. Але—конь?

— А дзе ён каня ўзяў?—хрыплым голасам спытаў стары. — Яму ніхто не даваў з канюшні.

Толькі цяпер, адчуваючы вялікую і непаўторную радасьць вызваленьня ад цяжкага, балючага настрою не гаварыла, а паказвала Зося ўсё нутро.

— Ён, Харытон, краў разам з Болдусам Аўдзеем. На Аўдзеевым кані. Вазілі ў Аўдзеева гумно. Яны і сёньня прыедуць. Бо згаварваліся, за пляшкай у нядзелю. А мне сказалі, каб ня пікнула.

Стары аж сеў.

— Мо' цяпер абабегчы поле? Мо' яны ўжо дзе бяруць?

— Яны прыяжджаюць пад дзень. Да поўначы, кажуць, шмат народу швэндаецца, дык спаткаць могуць. А пад дзень усе сьпяць. Яны так хамуты і калёсы цягалі.

Стары хацеў спытаць, чаму яна не сказала раней, але ці варта было растраўляць раны, калі яна ўпарта хацела іх зажывіць.

... Казала Харытону: ня лезь, усёроўна ня возьмеш за жонку.

— Ты цяпер будзеш не парабчанкай, а жонкай гаспадыняй.

... Жанкі ідуць на сход, грукаюць мне ў вакно, каб я ішла. А ён:

— Бабе ў хаце трэба сядзець. Гэтыя сходы ні да чаго добрага не давядуць, яшчэ боўтнеш там што непатрэбнае языком.

... А потым стаў крычаць, біцца, што на работу калгасную хаджу, што стараюся рабіць лепш за ўсіх. Сам ён ходзіць

толькі для выгляду. А сёньня, як наўмысьля, каб спаганіць мяне перад другімі, пушчаў агрэхі, таптаў жыта...

— А дзеці-ж—устаў стары, калі яна скончыла.—Чаму ў вас няма дзяцей?

Было гэта сапраўды, ці толькі здалося, вялікай крыўдай і ненавісьцю заклякатала цішыня. Яна не абзывалася доўгі час. Потым загаварыла. Але голас быў сухі і чорствы, як ня гэтая, а зімняя марозная ноч.

— Усіх, яшчэ няжывымі... Яшчэ шмат бабак і павітух...

— Нядаўна, мо' тры дні таму назад, кажа мне сястра Алёна (ёй на Пятра мінулася 14 год): „Мяне Харытон ловіць усюды на завугольлі, нешта ўгаварвае, праходу не дае. За грудзі лэпае"...

.. А мне гэта—як пякучым шылам у грудзі. Закалола востра. Я ўся аж зьбялела. „Няўжо праўда? Што прывабнае ўбачыў у гэтым хударлявым дзіцяці? Пытаю ўвечары:

— Чаго ты да Алены прыстаеш? Чаго заганяеш? Мяне сьцёгаў, высушыў, дык цяпер да яе лезеш!

Ці ўхмыльнууўся-б, ці загарніўся-б! Так проста і кажа, толькі вочы, як у галоднага ваўка, аж гарaць.

— Жыць без яе не магу! Спрацівела ты мне. Хвігура ў цябе ўжо ня тая...

... Памаўчаў. Потым як закрычыць на ўсю хату:

— Няхай яна будзе мне за жонку! І ты будзеш жыць разам з намі. Есьці разам з намі...

Раптам яна ўстала. І стары ўпяршыню адчуў у шолаху іржэўніку яе цьвёрдыя, рашучыя крокі.

На ўсходзе заравам блізкага дня пачынала палыхаць неба. Радзеў зялёны бляск далёкіх зор. З цемені выступалі мутныя абрысы састаўленых ў мэндлікі снапоў.

— Дык ты ўжо да яго ня пойдзеш?

— Не пайду. Сама, без яго пражыву. У мяне 173 працадні... Цяпер ён ужо ад мяне выбярэцца,—дала яна загадку старому. І пакуль сабраўся спытаць, ці верна ён вырашыў яе таямнічыя словы, сказала прыцішаным голасам:

— Падбіраюцца.

— Дзе?

— Вунь, ад сядзібы. Я набягу пабуджу старшыню, а дзядзька тут пабудзь. Сёньня канец будзе іх раскашэнству.

— Хутка дзень,—ні з таго, ні з сяго, зьдзіўлены яе энэргіяй і распарадчасьцю, толькі і прагаварыў Аляксей. І пачаў шукаць свайго кійка.

— Ужо дзень!—абазвалася яна, як здалося Аляксею, усім сваім нутром.—І не такі, як тыя, што прайшлі.

Яе постаць ураз зьнікла ў шэрым змроку раніцы.

Жнівень, 1932 г.
Пухавіцкі раён.



**Рабочыя Лівенскага саўгасу разгружаюць скрыньні разабраных снопавязалак і інш. частак**

ЗЯМА ПІВАВАРАЎ

# МІНУЛАЕ КАМАНДЗІРА

**Начальніку 3-га авіяатраду №-й ударнай эскадрыліі**

Спачатку
    Донбас,
Канагонам
    там.
Маладым грудзям
    цяжка дыхаць пыл
        — чорны смурод
Спачатку
    Донбас,
Канагонам
    там.
Дзевяцьсот
    чатырнаццаты
        год.
Паганяй конікаў шыбчэй...
    Удар пугаю!..
Гаспадар Макееўкі
    падпальвае
        рабочы
            гнеў,
Гаспадару Макееўкі
    патрэбна паболей
        вугалю,
Каб аддаць
    ненасытнай
        вайне.
Перарастала наша помста
    у дужасьць,
А дужасьць паходам
    ішла—
Разьвярнуць каб
    з усёй мужасьцю
        шпалы ці кверцлаг.
І калі ў забастоўку кірка
    пад зямлёю зычна
        аддасьць
            гучнабежным
                рэхам,—
Гэта добрая
    для нас здабыча,—
правучыць трэба
    штрэйкбрэхэра.
Вось хлопцы нашы
Падслухалі дзесятніка
        Крупку,
ды ўпраўляючага
    (з налітаю мордай пунсовай).
Управляючы
    вышчарыў
        залатыя зубкі:
„Разьлічыць
    бунтара
        Кузьняцова"!..

. . . . . . . . . . . . . . .

„Пётра,
    ведаеш,
разьлічыць зьбіраецца цябе тоўсты.
Бунтару, кажа,
    гэтак і трэба".
—Эх,
    братка,
        сэрца гарыць помстай,
Салоным
    потам
        прапах наш
Чорствы кавалак
    хлеба.
Ім што...
    у цёпленькіх
падаграве
    кроў наша
Іх напэўна.
Сьцеражэцеся,
    маразком прабяжыць
        па вашым целе
    Шахцёрскі
        гнеў наш!..

. . . . . . . . . . . . . . .

у бараках ноч, як донбаскі вугаль,
            чорная.
і цішыня нацята
    застыглай
            топкай.
Няма чаго
    хлапцам гібнець
            у дарозе торпнай
Праз пару дзён
    на а-гуль-ную
            забастоўку!..

АЛ. ПРУДНІКАЎ

# ІДЗЕ ЎДАРНАЯ ЎБОРКА

Цэлы дзень грыміць жняярка,—
Там сягонечы за ўзгоркам
Пад праменьнем сонца яркім
Ідзе ўдарная ўборка.

Жыта стромкае пасьпела,
Шалясьціць калосьсем гнуткім...
І рады снапоў гусьцеюць,
Як акінуць вокам, хутка!

Даражыць машынай будзем,
Кожны колас прыбярэм мы.
Тут калісь—было бязьлюдзьдзе,
Землі гінулі дарэмна.

Мы-ж
засеялі іх жытам,—
Узьняліся горда, плённа!
Мы навек над перажытым
Крыж паставілі з праклёнам!

Тут пад корань
рэжа нівы
І ў снапы
жняярка вяжа.
Колас буйны,
урадлівы—
Наша ўцеха!
Радасьць наша

Прыбярэм яго дачасна,
Ля гумён у копы зложам...
... Ва ўсе канцы
краіны шчаснай
Пабягуць вагоны збожжа!

Нездарма-ж вядзем ударна
Па палёх сваіх жняярку!
Ураджай—
высокі дар наш,
Для краіны пралетарскай!

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

# У НОВЫМ ПАЛЕСЬСІ

## 1. Доўгая дарога

Дарога праз жоўтае сьпелае поле, праз цёмны лес, бяжыць па выбаях, грэблях і стукаюць колы па ёй марудна і ціха.

З мястэчка Глуску выехалі мы на 4 саўгаскіх фурманках, на іх разьмясьцілася камсамольская брыгада, вылучаная райкомам камсамолу на дапамогу саўгасу „Загальле“ ў сенапрыборачнай кампаніі. Ехалі з песьнямі, сьмехам, шумам. Весела галёкалі вожчыкі і рэха кацілася далёка ў лясную гусьцечу.

Стары хурман з жоўтым сьпісяжаным зморшчынамі тварам тоўстымі галузамі пальцаў напіхаў у люльку тытунь.

— Ці хутка Загальле, дзядзька?—ня стрымаўся я.

— Блізка відаць, ды далёка дыбаць. Лёгка сказаць Загальле, а паспрабуй дабрацца туды—духі ўсе за дарогу вытрасеш. Зараз яшчэ паўбяды—бяды, а калісь, як памятую, калі служыў я шчэ парабкам у прападушчага Булата, ні ў Загальле дабрацца, ні адтуль—зімою прыехаў, значыць і сядзі да наступнай зімы. Так вось і жылі, гаравалі, сьвету ня бачылі. Навокал непраходная дрыгва і мох.

На сотні вёрст цягнецца гэтае дзікае, дзе ніколі ня ступала нага чалавека, балота. Вось Жалы, зараз у іх будуюць цэнтр луггасу, зараз там працуе больш сотні чалавек, трактары гудуць удзень і ўначы, а яшчэ зусім нядаўна на гэтым востраве жыў кулак Булат, панам жыў, парабкаў чалавек 10 меў, таварнай жывёлы галоў з 70, жыў, як воўк, ніхто тут ніколі ня быў, ня бачыў ягонага багацьця. Да 1928 году ніхто з іх падатку не плаціў, балота іх ад усяго абараняла.

Стары хурман сквапна ссаў цыбук люлькі і плюшчыў ад дыму шэрыя старэчыя вочы, а колы мерна стукацелі па глыбокіх выбоінах каляін, скакалі па тоўстым карэньні густога лесу. Дарога выбягала на гала і лес зубцом уразаўся ў сівы масыў загальскага балота, пасярод яго ішла вузкая грэбля, а па абодвы бакі блішчэла іржавая балотная вада, тырчэлі зжаўцелыя шчыткі рэдзенькай асакі. Белы туман мокрымі пасьцілкамі вісеў над балотам, пахла балотнаю вільгацьцю і конскім потам, а колы ўпарта грукацелі па выбаях грэблі рушачы спакой палескае ночы.

## 2. Каротная ноч

Усґавала раніца. Тонкімі мазкамі ружовых хварбаў аздобіўся небасхіл і на гэтым ружовым фоне вырысаваліся чорныя сілуэты высокіх недакончаных будынін.

— Вось і Жалы, якраз да раніцы дапхаліся,—з відавочнаю палёгкаю кажа хурман і кіруе коні да новае стайні. У канцы двара пад чорнымі лапамі елкі стаіць некалькі сталоў, іх асьвятляе вялікая лямпа, адкідаючы даўгія цені ад чалавечых фігур на сьцены невялікай хаткі. З яе праз насьцеж расчыненыя дзьверы відаць да чырвані напаленая печ, у хатцы душна і горача. А людзі за сталамі ажыўлена бразгаюць лыжкамі аб берагі эмаляванай пасуды.

— Ідзеце туды да сталоўкі,—кажа нам прыбегшы аднекуль з-за пуні невялічкага росту ў зашчытнай кашулі шустры, вяртлявы чалавек. Ён з гаспадарскаю заклапочанасьцю бегае па двары, нешта камусь загадвае, кагосьці шукае.

— Гэта я таксама толькі што прывёз рабочых, а заўтра мы пойдзем у Барыкава, гэта кілёмэтры за чатыры адсюль, там зараз цэнтр нашае гаспадаркі, там трактарная калёна, адміністрацыйнае кіраўніцтва, але месяцы праз два мы скончым грэблю і цэнтр нашага луггасу пярэйдзе сюды ў Жалы.

Ён паказаў у бок невялічкага хмызьняка, адтуль былі відны кроквы і новыя стрэхі саўгаскіх будынкаў, у якіх зьмесьцяцца сотні рабочых сем'яў, трактары, якія зараз ніяк ня могуць дабрацца сюды з Барыкава праз непраходнае балота, якое ледзь-ледзь (і тоня скрозь) утрымлівае чалавека.

— Нашы трактары, каб трапіць у Жалы павінны рабіць у сярэднім 150 кілёмэтраў аб'езду, а тут усяго чатыры кілёмэтры праз невялікі кавалак балота,—апавядае нам за ядою шустры ў зашчытнай кашулі тав. Гіндуш, ён прысланы сюды на час прыборачнай кампаніі менскім лугтрэстам.

Сэзоньнікі, што прыехалі перад намі разышліся на начлег. Мы таксама пачалі разыходзіцца па пунях на нядоўгі адпачынак. А на ўсходзе чырваньню аблілося неба, раніца ўставала над шэрым туманным балотам, а па двары рухаліся людзкія цені, гарэлі агні, раз-по-раз скрыпела брама стайні і ржалі і фыркалі толькі што выпражаныя коні. Саўгас не засынаў ні ў дзень, ні ў начы.

Тут пачалася касавіца, касілі ня вузенькія сялянскія палоскі, ня шукалі надзелаў і палікаў, тут новыя людзі пачалі касіць у сёлетнім годзе 10 тысяч *га* Загальскага балота, сёлета выходзяць касцы туды, дзе ніколі ня ступала нага чалавека.

— Таму і ночы малыя,—кажа таварыш Гіндуш,—таму забываешся на сон і яду.

## 3. Дарога ў Барыкова

Нам далі брыгадзіра. Малады рослы хлапец, нядаўні кулацкі парабак павёў нас на месца адкуль пачалася касьба. Кілёмэтры два мы ішлі па няскончанай грэблі, што даўгім языком уразалася ў бясконцае дзікае балота, пасьля грэбля адразу абарвалася, згінула пад нагамі і пачалася гразкая вытаптаная на балоце сьцежка, на ёй ногі грузаюць вышэй калень, прарываецца дрыгва пад ступакамі, войстрая асока калечыць босыя ногі.

— Гэта адзіная дарога, якою можна трапіць у Барыкава, ёю на плячох пераносілі грузы, насеньне, жалеза, гаручае для трактароў, але да зімы дарога будзе, яна-б зараз... але ўся рабочая сіла пашла на прыборку сена, вось зараз угледзіце нашы брыгады.

Мы вышлі на сухі астравок, а далей ужо пачалося асушанае балота.

— Асушка ідзе адтуль,—і брыгадзір паказаў рукою ў бок в. Ніжэнь, дзе знаходзіцца мэліорацыйны пункт балотнага

**ТПО паўднёвых ж. д. прыступіла да масавага рамонту і загатоўкі бочак для засолкі гародніны на зіму**



інстытуту, адкуль пачынаюцца роўныя каналы з сеткаю роўненькіх доўгіх асушальнікаў.

— Вось гэта ўжо асушана, узорана, засеяна культурнымі травамі.

Па роўным асушаным лузе белымі шнурочкамі раскінуліся брыгады касцоў, куды ні кінь вокам растуць гмахі-стагі, сохне сочнае сена і разносіцца пахам зёлак і водырам траў у гарачым ліпеньскім паветры. Тут працуе тысяча чалавек, яны косяць загальскае балота, яны рыхтуюць тысячы тон маладога зялёнага сена нашай Чырвонай арміі.

На гэтым балоце ўвосень 1931 г. быў арганізаваны першы ў СССР лугавы саўгас „Загальле", цэнтрам яго і зьяўляецца зараз Барыкава. Тут яшчэ засталіся рудымэнты колішняга кулацкага хутара, але зьвярнуўшы праз вуліцу нізенькіх хатак пачынаецца новы малюнак, ён адразу нагадвае заводзкі двор, або новую гарадзкую вуліцу. Каля трактарнага гаража стаіць 20 новых харкаўскіх трактароў, шырокія плечы радыятараў, густа ўкрыты рыжым тарфяным пылам, пад машынамі лазяць іх гаспадары-трактарысты, ляпаюць малаткі па звонкіх дэталях машыны, нібы малаток спэцыяліста-доктара па шырокіх здаровых грудзях.

— Гэта прыехала першая зьмена на абед,—вытлумачыў нам брыгадзір.—З 4-х гадзін раніцы хлопцы працуюць, хлёсткія хлопцы, як адзін, дзяцюкі большасьцю прыежджыя—ленінградзкія, харкаўскія рабочыя—і ён з ухмылкаю зірнуў на дзяўчат нашае брыгады, нібы ім адрэкамэндаваў сваіх трактарыстаў.

Я адразу падышоў да гаража, цяжкія колы трактароў глыбока ўядаліся ў гарачы сыпучы пясок, гарачынёй і перагарам газы дыхалі машыны, каля іх завіхаліся маладыя гарэзныя хлопцы, запыленыя, вымурзаныя ў тоўт і алінадат. Да іх падышла другая зьмена.

— Ну хто, хлопцы, сёньня больш выараў?—голасна спытаў трактарыст другое зьмены.

— Барысенкава брыгада,—гаркнула разам некалькі галасоў.

— Дзіва, у яго лепшыя машыны, ніводная ніколі ня буксуе, а таму й прастояў няма.

— Хлусіш!—выскачыў з пад трактара замурзаны Барысенка,—трэба разумець і ведаць машыну, трэба ўмела і дбайна на ёй працаваць—ніколі не забуксуе.

Машына ня любіць чакаць чалавека—і машына ніколі не чакае тав. Барысенку, яго брыгада № 3 адна з лепшых ўва ўсім саўгасе. Барысенку, лепшага брыгадзіра, сакратара камсамольскай ячэйкі, добрага, вясёлага спрытнага хлапца ведаюць усе. Ён бачыць правалы, слабасьці ў рабоце і скрозь падстаўляе свае плечы. Сакратар партыйнай ячэйкі любіць параіцца з Барысенкам—вопытным, разважлівым хлопцам.

— Заўтра рабяты дзьве брыгады едуць з касілкамі на сенажаць, туды ў бок Арэсы па Цахвінскаму каналу,—выціраючы кудзеляю рукі, кажа сваёй брыгадзе тав. Барысенка.

Па дарозе ў сталоўку нам стрэўся тав. Гіндуш і яны абодва нас пазнаёмілі з гісторыяй і становішчам свайго саўгасу.

#### 4. Гігант на балоце

Я толькі зараз здолеў угледзець гэты гігант, што з дня ў дзень расьце на дрыгве загальскага балота.

З лета 1931 году тут пачаліся першыя асушальныя работы і толькі ўвосень быў пакладзен пачатак арганізацыі лугавога саўгасу „Загальле", які дасьць тысячы тон сена нашай Чырвонай арміі і зьявіцца цэнтрам сацыялістычнай культуры на Палесьсі. Ён расьцёгся на 40.558 *га* ўздоўж па загальскім балотным масыве, які ў бліжэйшыя гады павінен быць канчаткова асушаны і засеяны культурнымі і тэхнічнымі травамі для ўкосу. На 2-х тысячах *га* асушанага балота ўжо цьвіце зялёная лапушыстая канюшына, на вопытным вучастку роўнымі радкамі пасаджана капуста, каласяцца буйныя жыты і ячмені, у саўгасе ідзе шпаркім тэмпам будаўніцтва.

Трэба-ж кватэры рабочым, адміністрацыі, гаражы для машын. З-за недахопу памяшканьня мы ня можам забраць нашых 42 трактароў, якія ў селетнім годзе ў значнай меры-б маглі замяніць нам рабочую сілу, а гэтыя 20 машын, што ёсьць зараз, ледзь могуць справіцца з успашкай асушанага балота,—кажа таварыш Гіндуш,—а галоўнае, нам патрэбны дарогі, без дарог вясной і ўвосень мы—востраў, адарваны ад сьвету акіянам непраходнага балота. Нам абавязкова да восені мець 25 кілёмэтраў дарог, якія больш-менш зьвяжуць нас з раённымі, а там і з чыгуначнымі цэнтрамі.

У гэтым годзе будуецца 65 аб'ектаў. На зіму саўгас мацьме лазьню з пральняю, амбуляторыю, клюб, усе рабочыя будуць забясьпечаны новымі кватэрамі.

Зараз у саўгасе працуе большасьць сэзоньнікаў, адыходнікаў з бліжэйшых калгасаў, для іх на тэрыторыі 10 тыс. *га* (якія павінны быць у гэтым годзе скошаны) пабудаваны баракі, на ўсіх вучастках раскінуты сталоўкі—саўгас прымае ўсе захады да таго, каб скасіць 10 тыс. *га*, каб на зіму даць нашай Чырвонай арміі 14 тысяч тон сьвежага зялёнага сена. Таму пачалася прыборка з 15 чэрвеня, гэтым зламалі колішні звычай паляшука—„касьбу пачынаць не раней Пятра і Паўла"—бальшавіцкія тэмпы не чакаюць ніякіх тэрмінаў. 1000 чалавек брыгадамі вышла на прыборку саўгаскага сена і з першых-жа дзён узялі бальшавіцкія тэмпы работы. У першую дэкаду прэміравана брыгада касцоў Русака і 23 сэзоньнікі.

Угледзеўшы грандыёзны рост саўгасу раённыя работнікі адмовіліся ад традыцыйнай прыказкі, што „Загальле—прорва, дзе ніколі нічога ня будзе"—у Загальле зараз вылучана моцнае партыйнае і прафсаюзнае кіраўніцтва, якое дагэтуль адсутнічала. Загальле з дзікага непраходнага балота з традыцыйным каўтуном, забабонамі і звычкамі, Загальле, дзе калісь продкі цяперашніх саўгаскіх рабочых сеялі соль (спадзяючыся атрымаць ураджай) з дня на дзень становіцца буйнейшым цэнтрам сацыялістчынага земляробства, фабрыкай сена, фабрыкай новых людзей. На зіму ў кватэрах рабочых загарыцца лямпачка Ільліча, усеагульнае абавязковае навучаньне дасьць саўгасу надзейных і здольных работнікаў.

Сёньня Палесьсе сьпявае поўнымі грудзьмі магутных харкаўскіх трактароў, коўшамі экскаватараў, зьвініць песьнямі ўдарных брыгад у суладнай і плённай рабоце.

Ліпень, 1932 г.
Глускі р.




**П'еса А. ВОЛЬНАГА і Р. НОБЕЦА**

*(Працяг)*

Выключнае права пастаноўкі передана БДТ-3.

Голас: Чорт яго ведае... ён як калі... то лаецца, задрыга, ўтруха... а то па евангельску крые...

Голас: Талстовец, мусіць...

Голас: А по-мойму—ён кулак... Хрыстосікам прэпадобным прыкідваецца.

Голас: А і сапраўды хлопцы ён Ісуса нагадвае .. Каб яшчэ бародку—чысты Ісус хрыстос, такі як яго на абразох малююць. (Звон рэйкі).

Брыгадзір: Па мясцох, таварышы... За працу... (Стук сякер, малаткоў, песьня).

## АБРАЗ 6

### Мяшчанскі рай.

Невялічкі з нізкай стольлю пакой. На падаконьніку гэрань! Белыя мусьлінавыя фіранкі закрываюць вокны. Пакой напоўнены дарагімі, але бязгустоўнымі рэчамі, нагадваючы лямбард. На адным стале грамафон, на рагавым століку патэфон. На сьцяне гітара з банцікам. Пасярэдзіне стол з самаварам, які кіпіць. у кутку клетка з канарэйкай. Пупочак сядзіць у разьвінчанай позе на дыване, яму прыслужвае Сьцёпка бяспрытульнік.

Пупочак: Апполён... (маўчаньне), Апполён... табе кажуць, чуеш Апполён... (крычыць з абурэньнем). Апполён... (ізноў маўчаньне). Сьцёпка, чорт-бы цябе пабраў, ня чуеш, табе кажуць. цецярук ты глухі. Сьцёпка.

Бяспрыт: (на ўсё горла)—Я дзядзечка.

Пупочак: Чаго галёкаеш як шалёны. Чаму не адклікаешся, калі цябе клічуць сто разоў.

Бяспрыт: Вы мяне ня клікалі, дзядзечка.

Пупочак: Як гэта ня клікаў. Я табе дваццаць тысяч разоў крычаў... Апполён, Апполён. А ты як вады ў рот набраў.

Бяспрыт: Мяне дзядзечка клічуць Сьцёпка-Шпунт. А апалонікам маці мая крупнік разьлівала ў талеркі... я не апалонік, а Сьцёпка.

Пупочак: Дурань. Раз ты жывеш у раю, значыць і імя райскае павінен мець... Што гэта за імя Сьцёпка... Вось Аполён—другая справа... Прыгожа і гучна... Быў такі Аполён Бэльвэдэрскі... Праўда, ты мала падобен да яго, але... калі я называю цябе Аполёнам—адгукайся, асабліва пры гасьцёх... Прыдзе, да мяне напрыклад, скажам Ной, хапіць чарачку нектару ці Афрасіньня Полацкая, ці сёстры Вера, Надзея і Любоў, і маці іх Софія—крыкну табе Аполён—зараз-жа адгукайся...

Бяспр: Ня буду—маці апалонікам ніколі не называла. Хлопцы нашы дарма што партовыя, апалонікам таксама не дражнілі... А тут на табе, рай—а гора і пекла...

Пупочак: Ну, ну... Досыць... Не разважай... Падай мне панчохі. Зараз можа Марыя-Магдалена можа зойдзе, я ёй падарунак раблю.

Бяспр: Якія панчохі. У вас-жа іх пар дваццаць захована.

Пупочак: Замежныя!

Бяспр: А можа нашыя. Савецкія-ж таксама моцныя.

Пупочак: Дурань. Няхай сабе савецкія і мацнейшыя, але-ж затое яны не замежныя. Марка. Разумееш... Марка... Валютай пахне. Марыя-Магдалена можа падумае, што я чужаземец. Разумееш... Што я француз... Фасон... Давай замежныя.

Бяспр: Даю, дзядзенька...

Пупочак: Дурань... Ты што-ж мне адразу дзьве панчохі даеш... Хопіць з яе на гэты раз і аднае панчохі... Тэкс... Цяпер завадзі патэфон...

Бяспр: Якую пласьцінку паставіць...

Пупочак: Ах эти чорные глаза... Цікавейшая песьня... Так за душу і хапае, так і хапае.

Бяспр: Слухаю, дзядзечка. (Заводзіць патэфон).

Пупочак: (падпявае). М-е-н-я пле-ни-ли... Их позабыть не в силах я... Да чаго культурная песьня. Далікатная томная... (паўза). І грамафон завядзі. Фокстрот няхай іграе.

Бяспрыт: Слухаю. (Ставіць плястынку, грамафон грае разам з патэфонам фокстрот).

Пупочак: Вось гэта культура. Вось гэта цывілізацыя. Вось гэта райскае жыцьцё. Падай шклянкі нектару.

Бяспрыт: Якога: перцавага ці рабінавага.

Пупочак: Ангельскага... такі добры нектар... моцны, толькі цэнтрасьпіртам пахне... а ну яшчэ адну за райскае жыцьцё... Ух і моцны, спыні музыку, дай гітару. Сам іграць будзеш.

Бяспрыт: Даю дзядзечка.

Пупочак: (грае і пяе).

Грозди душистые... акации белой...
Вас не забыть никогда, никогда...

Хапіць яшчэ адну шкляначку нектару... Хва-чу... На гітару, Сьцёпка. Павастры нож аб нож Сьцёпка, падражні канарэйку, люблю птушку. За сьпевы яе... Прытульнасьць навяваюць.

Бяспрыт: (вострыць нож аб нож). Слухаю дзядзечка...

Пупочак: Тюр-люл-ю... Птушачка... ці... ці... фю ть... (канарэйка сьпявае). Нязвычайна... адумысловы... Чуеш, Сьцёпка. , Сьпеў які райскі. У майго знаёмага карчмара таксама так сьпявала канарэйка. Усе купцы і чыноўнікі прыходзілі слухаць. А цяпер у мяне ў самога такая ёсьць... Адно слова—рай... Разумееш ты, Сьцёпка, гэта слова—рай... Адылі яго трэба заслужыць... Ды так, каб і на зямлі жылося ня кепска і ў раю добра. Слухай мяне Сьцёпка, чалавекам будзеш, я цябе навучу жыцьцёвай мудрасьці... Прытрымлівайся яе... праз вякі яе выпрацоўваў... народ абыватэльскі...—паважаю дужага—ганьбую душы слабога... Слухайся начальніка, нізка кланяйся і прыслугоўвай, але падцягвай кур'ера. Не гавары таго, што думаеш, а гавары тое, што выгадна, не пазычай грошы сябру сваймў, бо не аддасьць сукін сын... Правільна гаворыць мудрасьць абыватэльская Ня мей сто сяброў, а мей сто рублёў... Заўсёды проценты нарастуць (закашляўся). Кхэ... Кхэ... застудзіўся, бяда... Пахавалі сволачы на вільготным месцы. Як-бы грыпа ня было. Падай Сьцёпка пірамідон. (Чуваць стук у дзьверы). Уваходзьце. (Уваходзіць бог, вядучы за руку Ісуса).

Пупочак: А, божанька... у імя айца і сына і сьвятога духа...

Бог: Амінь...

Пупочак: Сядайце, будзьце як дома (крычыць). Аполён (маўчаньне). Аполён... Сьцёпка, чорт глухі.

Бяспрыт: Я дзядзечка.

Пупочак: Ня бачыш... Падай божаньке крэсла...

Бог: Ня турбуйся, пастаю... А ну паглядзі на яго (паказвае на Ісуса). Бачыш... Навучыў... І кашулю парвал, і морду набілі. Бачыш... Цяпер я цябе за такую навуку ў пекла накірую... Дурная твая навука...

Пупочак: (падае на калені). Божа мой... даруй мае праграшэньні вольныя і нявольныя... Нявінен я... Шчыра вучыў. Мусіць сын божы адзінародны зрабіў што-небудзь ня так, як казаў я, таму і набілі. Я-ж нічога кепскага не хацеў, я сам духоўнага паходжаньня, папаша мой адзінаўтробны сам у сьвяшчэньніках хадзіў...

Бог: Ну добра... За аднаго бітага двух нябітых даюць... На першы раз дарую. Заўтра Ісус накіроўваецца ў Амэрыку да тых, хто больш верыць... Дык ты яго навучы як там трымацца... Патрапіш...

Пупочак: Патраплю, божанька, патраплю. У мяне брат ёсьць, даляры мне прысылаў, дык ён пісаў мне як там трымацца... Навучу...

(Абраз 7 і 8 надрукаваны ў № 11—12 „Ч. Б").

АБРАЗ 9

Гучыць духавы аркестр музыкі. Чуцен шум галасоў. Абрыўкі слоў на розных мовах. Музыка. Аркестра канчае. Званок калакольчыка.

Бог: Назвычайны кангрэс багоў абвяшчаю адчыненым. (Музыка грае туш).

Есьць прапазыцыя абраць прэзыдыум у складзе наступных багоў: Егова, Аллаха, Буды, Канфуцыя, Брамы, Вішну. Хто за гэты сьпіс прашу падняць рукі. Хто ўстрымаўся.

Пупочак: Аднагалосна.

Бог: Прашу прэзыдыум заняць месцы. (Музыка грае туш). На павестцы дню нашага надзвычайнага кангрэсу наступныя пытаньні: 1. Справаздача багоў, 2. Вызначэньне тэрміну страшнага суду. 3. Бягучыя справы. Хто за гэтую павестку дню, прашу падняць рукі. Аднагалосна.

Бог: Слова для прывітаньня мае ня так даўно прыбыўшы з зямлі Мікола Пупочак.

Пупочак: Высокі кангрэс! У мяне выступаюць сьлёзы ад уміленьня, калі я бачу ўсіх вас і нашага праваслаўнага божаньку. і ён тут старшынствуе.

Аллах: (з месца, з усходнім акцэнтам). Старшынстваваць будзем па чарзе.

Пупочак: (кашляе сморкаецца). Выбачайце божанькі, але ў выпадку, калі я памыліўся, то я прызнаю сваю памылку і абмяжоўваюся. Высокі кангрэс. Я хачу вам перадаць, што вера ў нас абывацелей у вас, высокія богі, яшчэ сільная. Высокія богі. У нас у нашай краіне, рэлігія аддзелена ад дзяржавы, то мы ў вас высокія богі дома верым, а на службе не. Высокі конгрэс, я сам веру ў бога, у нашага адзінага праваслаўнага бога. (Шум).

Голас: Далоў з трыбуны.

Магамэт: Ішак. Відзіш тут не адзін бог у прэзыдыуме сядзіць, а многа багоў... Барышня не запісвай ішак у стэнаграму.

(Пупочак кашляе).

Пупочак: Высокія богі. Выбачайце. Калі я што ня гэтак... Першы раз—на гэтакі сход папаўся. Дык вось я быў думаў, што ён адзін бог ёсьць, наш праваслаўны бог і верыў быў у яго, у адзінага бога, ажно цяпер я бачу, што іх шмат багоў і я—ня гневайцеся ў вас ува ўсіх веру. А бо як той казаў абы яно ціха было, яшчэ раз перадаю вам сваё прывітаньне ад імя абывацеляў і хочу выгукнуць вам наступныя словы. Хай жывуць высокія богі і хай жыве самы надзейны аплот багоў абывацель. Ура. (Туш).

Бог: Слова для прывітаньня мае мой сын Ісус хрыстос. (Туш).

Ісус: Высокія богі перад вамі сабраўшыміся тут стаяць вялікія задачы, якія вы павінны вырашыць. Далей кіраваць зямлёю, так як гэта даўней было цяпер нельга. Трэба прыдумаць агулам новыя формы кіраўніцтва. Возьмем для прыкладу ні то новы завет ці то ветхі завет ці то дзесяць запаведзей якія былі даны народам некалькі тысяч гадоў маім бацькам... Тут на кангрэсе сядзяць усе свае людзі і таму трэба сказаць шчыра. Устарэў і ветхі і новы завет устарэлі дзесяць запаведзей... І зусім служна раіць адзін мой знаёмы рэканструкцыю запаведзяў. Возьмем для прыкладу гэткія словы: калі цябе хто ўдарыць па правай шчаке,—падстаў яму левую. Што гэта за парада. Я быў падстаўляў—б'юць і па левай... і цяпер я прапаную зьмяніць гэтую запаведзь і чытаць яе ў наступнай рэдакцыі „калі цябе хто ўдарыць у правую шчаку—хапай дручок і бі яго суччага сына аж да крыві, або скажа гэткая запаведзь. Не пажадай жаны бліжнага твайго ні сяла яго ні асла яго, ні вала яго"... Заблытана тут усё нейк... Не пажадай жаны бліжняга твайго:—а калі яно жадаецца. Я прапаную выкінуць з гэтай запаведзі жану. Асла і вала можна пакінуць... (Вопleскі). Я чую што агульны настрой сабраўшыхся адпавядае маім думкам і таму прашу высокі кангрэс сур'ёзна разглядзіць мае прапановы (воплескі туш).

Бог: Слова для пазачарговай заявы мае каталіцкі бог.

Кат. бог: я павінен на кангрэсе ў адзнаку высокага гонару да францускага богу ўзнагародзіць яго ордэнам белага арла.

Ягова: (да праваслаўнага бога). Гэны ieзуіт здаецца зьбіраецца зрабіць пазычку.

Магамэт: (да Ісуса) Пан Езус, падай графін з вадою. Магамэту галава баліць пасьля ўчарайшага (Ісус робіць выгляд, што ня чуе. Магамэт падымаючыся з места і падыходзячы да графіна). Ня ідзе гара да Магамэта, дык Магамэт падыйдзе да графіна...

Алах: Словы для справаздачы мае амэрыканскі бог.

Ягова: Рэгламэнт...

Аллах: Даклад гадзіна.—Слова ў спрэчках пяць хвілін...

Амэр. бог: Па першаму я прывяду вам некалькі лічбаў якія абмалююць рост уплыву амэрыканскай царквы ў долярах...

(Канец будзе)

М. ЧЫШЭВІЧ

# ЗНАЧОК „ГПА" ЗАЙМАЕ СВАЁ МЕСЦА

Фізкультурная арганізацыя Беларусі сустракае васемнаццаты „МЮД" з значнымі посьпехамі ў здачы іспытаў на значок „Гатоў да працы і абароны". Да міжнароднага юнацкага дня здалі поўнасьцю іспыты 17208 і ахоплена здачай 76867 працоўных. Параўнаўча з 1931 годам фізкультурная арганізацыя колькасна патроіла свае шэрагі і дамагласа вялікага якаснага росту. Фізкультурнікі актыўна ўдзельнічалі на дарожным будаўніцтве, дзе адпрацавана сіламі ФК арганізацый 50 тыс. працадзён. У чэрвені месяцы вышэйшым саветам фізкультуры праведзена эстафэта „За ўраджай" па рэалізацыі пазыкі „4-га завяршаючага" году пяцігодкі"—прысьвечаная пленуму ЦК ЛКСМБ. Фізкультургурткі Менскіх прадпрыемстваў у часе рэалізацыі пазыкі пасылалі буксірныя брыгады на адстаючыя прадпрыемствы. Менск да 1 верасьня прыходзіць з дваццацітысячнай арміяй ахопленых здачай іспытаў на значок і 7165 поўнасьцю здаўшых (кантрольная 6000). Фізкультурнікі прынялі актыўны ўдзел у праполачнай кампаніі, куды накіроўваліся спэцыяльныя брыгады па праполцы. Гэта дасягненьні, але неабходна ўспомніць і тыя скажэньні, якія дапусьцілі некаторыя працаўнікі фізкультуры ў адносінах раздачы значкоў.

Кустпрамкаапэрацыя: інструктар т. Баршчоў выдаў значкі няпоўнасьцю здаўшым нормы. Гэты факт разглядаўся як „очковтирательство", за што т. Баршчова МГС ФК зьняў з працы. Тав. Баршчоў прызнаў сваю памылку, але на гэтым факце павінна вучыцца ўся беларуская фізкультурная арганізацыя.

На сёнешні дзень цэлы шэраг раёнаў выканаў і перавыканаў кантрольныя лічбы 1932 г., Жлобінскаму было заданьне 400 чал., здалі 417, Койданаўскі раён перавыканаў сваю лічбу на 200 проц. Вялікую працу прарабіла раённае пралетарскае спартыўнае т-ва Дынама. Але ёсьць і адстаючыя раёны: Барысаўскі, Магілеўскі, Рагачоўскі, Клімавіцкі і інш. Гэтым раёнам патрэбна выкарыстаць усе магчымасьці для лікквідацыі адставаньня, мабілізаваўшы вакол здачы норм пралетарскую грамадзкасьць. Патрэбна накіраваць лепшых працаўнікоў фізкультуры на адстаючыя прадпрыемствы ў здачы норм, якія-б (працаўнікі) мелі аўтарытэт сярод рабочай масы і здолелі прыцягнуць да здачы норм усіх рабочых. На сёнешні дзень па Беларусі кантрольная лічба поўнасьцю здаўшых далёка ня выканана. Гэта гаворыць за тое, што фізкультурныя працаўнікі нягібка аднесьліся да гэтай важнай справы. У летнім сэзоне засталося мала часу. Верасень месяц—рашаючы ў здачы норм па летніх відах. Таму нам патрэбна напружыць усе сілы на заводах, фабрыках, МТС, у калгасах і саўгасах зараз-жа прыступіць да завяршэньня здачы іспытаў на значок з тым разьлікам, каб спаткаць 15-годзьдзе Кастрычніка з поўным выкананьнем кантрольных лічбаў па значку.

Першага верасьня канчаецца 2-гі Ўсесаюзны конкурс-агляд фізкультурнай арганізацыі. 2 конкурс значна большы зрух зрабіў у ФК арган зацый. Фізкультурныя калектывы ўсю сваю працу павярнулі тварам да вытворчасьці. У Менску далі добрыя паказчыкі завод „Варашылава", зав. „Камунар" і іншыя, перабудаваўшы сваю працу па вытворчаму прынцыпу. Гэтыя калектывы правялі першыя фабрычна-заводзкія спартакіяды пад лёзунгамі: Барацьба за вытворчую праграму, за сто процантаў выкананьня кантрольных лічб здачы норм на значок, барацьба з лятунствам, бракам і г. д.

На заводзе „Варашылава" 35 чал. фізкультурнікаў атрымалі значкі і на „Камунары"—32 чалавекі. Значкі выдадзены лепшым фізкультурнікам—ударнікам вытворчасьці.

*Аб выніках другога конкурсу агляду матар'ял будзе дадзены ў наступным нумары.*

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1934. 3075 экз. Уп. Галоўлітбелу №а 787.

ЦАНА 15 КАП.

# ШАХМАТЫ № 14




Пад рэдакцыяй Я.

## V Усебеларускі шахматна-шашачны зьезд

25 ліпеня на Усебеларускім стадыоне імя 10-годзьдзя аслабаненьня БССР ад белапалякаў усебеларускімі групавымі і каманднымі спаборніцтвамі па шахматах і шашках распачаў свае работы V Усебеларускі шахматна-шашачны зьезд.

У спаборніцтвах прымалі ўдзел лепшыя шахматысты і шашысты БССР.

Ігра праходзіла па групах па 7 чалавек у кожнай.

### Усебеларускі групавы шахматны турнір

Ва ўсебеларускім групавым шахматным турніры ўдзельнічала 21 чалавек, пераможцы гарадзкіх і раённых шахматных спаборніцтваў. У спаборніцтвах акрамя даўно вядомых па мінулых спаборніцтвах шахматыстаў, прынялі ўдзел маладыя сілы, якія вырасьлі за час з IV зьезду. Некаторыя з іх ня толькі далі добрыя вынікі гульні ў групах, але і атрымалі права іграць у фінальных спаборніцтвах на пяршынство БССР.

**У першай групе** заслужана заняў перш е месца **майстар Сіліч** не праіграўшы ніводнай партыі і зрабіўшы толькі адну нічыю. 2-е месца заняў **Сташэўскі,** пераможца пяршынства **Магілева.** На 3-е вышаў **Бабурын.** Большага можна было чакаць ад Камянецкага.

1-ая група

| | Удзельнікі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Разам | Месц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | м. Сіліч (Віцебск) . . | × | ½ | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 5½ | I |
| 2 | Сташэўскі (Магілеў) . | ½ | × | ½ | 1 | 1 | 1 | 1 | 5 | II |
| 3 | Бабурын (Менск) . . | 0 | ½ | × | 1 | 1 | 1 | 1 | 4½ | III |
| 4 | Камянецкі (Менск) . | 0 | 0 | 0 | × | 0 | 1 | 1 | 2 | |
| 5 | Парэцкі (Ворша) . . | 0 | 0 | 0 | 1 | × | 0 | 1 | 2 | |
| 6 | Каралеў (Полацк) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | × | ½ | 1½ | |
| 7 | Зубкоў (Гомель) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | ½ | × | ½ | |

**У другой**—на 1-ае і 2-ое месца выйшлі прадстаўнік Полацку **Падольны** і Менску—**Насьцюшонак.** 3-е заняў пераможца пяршынства Менску **Шэвельман.**

2-ая група

| | Удзельнікі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Разам | Месц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | І. Насьцюшонак (Менск) | × | ½ | 1 | ½ | 1 | 1 | 1 | 5 | } II |
| 2 | Падольны (Полацк) . | ½ | × | ½ | 1 | 1 | 1 | 1 | 5 | |
| 3 | Шэвельман (Менск) . | 0 | ½ | × | 1 | 1 | 1 | 1 | 4½ | III |
| 4 | Ройнінсон (Віцебск) . | ½ | 0 | 0 | × | 1 | 1 | 1 | 3½ | |
| 5 | Ратнікаў (Горкі) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | × | 1 | 1 | 2 | |
| 6 | Бабіцкі (Гомель) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | × | 1 | 1 | |
| 7 | Редараў (Магілеў) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | × | 0 | |

**У трэцяй** таксама пераможцам выйшаў палачанін **Шалаеў** Другое заняў **Касьперскі.** На 3-яе нечакана выйшаў **Кацэнэльсон** выйграўшы праіграную партыю ў Абельсона.

3-я група

| | Удзельнікі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Разам | Месц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Шалаеў (Полацк) . . | × | 1 | 1 | 1 | ½ | 1 | 1 | 5½ | |
| 2 | Касьперскі (Менск) . | 0 | × | ½ | 1 | 1 | 1 | 1 | 4½ | |
| 3 | Кацьнэльсон (Бабруйск) | 0 | ½ | × | 0 | 1 | 1 | 1 | 3½ | |
| 4 | Гурвіч (Бабруйск) . | 0 | 0 | 1 | × | ½ | 1 | ½ | 3 | |
| 5 | Абельсон (Віцебск) . | ½ | 0 | 0 | ½ | × | 1 | 1 | 3 | |
| 6 | Мурніс (Барысаў) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | × | 1 | 1 | |
| 7 | Чэрняўскі (Ворша) . | 0 | 0 | 0 | ½ | 0 | 0 | × | ½ | |

Падрабязныя вынікі відны з прыкладаемых табліц.

Першыя тры пераможцы кожнай групы ўваходзяць у фінальныя спаборніцтвы на пяршыство БССР.

Застанаўліваючыся на якасьці партый, трэба сказаць, што ў шэрагу ўдзельнікаў, яна вельмі нізкая, што тлумачыцца шпаркім тэмпам ігры—2 партыі ў дзень.

### Усебеларускі групавы шашачны турнір

У двух групах ігрaла па 6 чалавек, у трэцяй—7. Калі ў шахматным турніры яшчэ даволі значны процант складалі ўдзельнікі мінулых шахматных спаборніцтваў, то ў шашачным мы маем маладняк, які вылучыўся за апошнія 2—3 гады.

**У першай групе,** як і сьледвала чакаць, першае месца заняў майстра **Гардон.** 2-ое—Пэўзнер, 3-яе і 4-ае падзялілі Школьнік і Храпуновіч.

1-я група

| | Удзельнікі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | Разам | Месц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | М. Гордон (Менск) . | × | 1 | ½ | 1 | 1 | 1 | 4½ | I |
| 2 | Пэўзнер (Гомель) . . | 0 | × | + | 1 | ½ | 1 | 3½ | II |
| 3 | Школьнік (Барысаў) . | ½ | — | × | 0 | 1 | 1 | 2½ | } III—IV |
| 4 | Храпуновіч (Віцебск) . | 0 | 0 | 1 | × | ½ | 1 | 2½ | |
| 5 | Эзрохін (Ворша) .. . | 0 | ½ | 0 | ½ | × | ½ | 1½ | |
| 6 | Гордзін (Бабруйск) . | 0 | 0 | 0 | 0 | ½ | × | ½ | |

**У другой групе** на 1-ае вышаў віцеблянін **Зісерсон,** 2-ое Юдашкін, 3-яе і 4-ае падзялілі Гардзевіч і Хацяновіч.

2-ая група

| | Удзельнікі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | Разам | Месц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Зісерсон (Віцебск) . | × | ½ | ½ | 1 | 1 | 1 | 4 | I |
| 2 | Юдамекін (Гомель) . | ½ | × | ½ | 1 | 1 | ½ | 3½ | II |
| 3 | Гардзевіч (Менск) . . | ½ | ½ | × | 0 | 1 | 1 | 3 | } III—IV |
| 4 | Хацяновіч (Полацк) . | 0 | 0 | 1 | × | 1 | 1 | 3 | |
| 5 | Шэрбэр (Горкі) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | × | 1 | 1 | |
| 6 | Пляўнік (Барысаў) . . | 0 | ½ | 0 | 0 | 0 | × | ½ | |

**У трэцяй** першыя тры месцы падзялілі Ракітніцкі, Розэнблюм і Берлінкоў.

3-яя група

| | Удзельнікі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Разам | Месц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Ракітніцкі (Менск) . . | × | ½ | ½ | ½ | 1 | ½ | 1 | 4 | } I—II—III |
| 2 | Розэнблюм (Менск) . | ½ | × | 0 | ½ | 1 | 1 | 1 | 4 | |
| 3 | Берлінкоў (Віцебск) . | ½ | 1 | × | 1 | ½ | 0 | 1 | 4 | |
| 4 | Гарадзецкі (Бабруйск). | ½ | ½ | 0 | × | ½ | 1 | ½ | 3 | |
| 5 | Лабоўскі (Гомель) . . | 0 | 0 | ½ | ½ | × | 1 | 1 | 3 | |
| 6 | Іваноў (Полацк) . . | ½ | 0 | 1 | 0 | 0 | × | 1 | 2½ | |
| 7 | Пэўзнер (Магілеў) . | 0 | 0 | 0 | ½ | 0 | 0 | × | ½ | |

Першыя тры пераможцы кожнай групы ўваходзяць у фінальны турнір на пяршынства БССР па шашках.

З 1-й групы ў фінал пападае Школьнік, з 2-й—Гардзевіч як маючыя перавагу па табліцы Бергера.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1932 г

18



МАЛАЦЬБА Ў КАЛГАСЕ
ІМЯ 12-ГОДЗЬДЗЯ КАСТРЫЧНІКА
ТАЛАЧЫНСКАГА РАЕНУ.

ФОТО СЕМЕНЯКІ.

ЗДЫМКІ САЮЗФОТО




**ПАЗШ.** Прышоўшыя ў Вашынгтон беспрацоўныя—былыя ўдзельнікі вайны—заявілі, што яны не пакінуць Вашынгтон да здавальненьня іх патрабаваньняў. На здымку: вэтэраны вайны на ганку парляманту.



Апошні портрэт амэрыканскага міліярдэра Рокфэльлера.



**ПАЗШ.** Мэтады ўзьдзеяньня на непакорных зьняволеных Стоунуолскай турме. Адзін з членаў расьследвальнай камісіі спрабуе ўвайсьці ў становішча пакараных зьняволеных.



**ПАЗШ.** Супроць вэтэранаў імпэрыялістычнай вайны былі накіраваны эскадроны кавалерыі, кулямётныя разьдзелы, пяхотныя роты, пяць танкаў, аўтамабілі з снарадамі. На здымку: паліцэйскія на варце ля зруйнаванага лагеру вэтэранаў.



**Новая Зэландыя.** У г. Оклендэ ў час разгону дэманстрацыі працоўных паліцэйскімі, беспрацоўныя пачалі граміць харчавальныя магазыны.



**Італія.** Замест хлеба „сьвятыя ладанкі“ у Рыме бедным дзецям царква раздае сьвятыя ладанкі.